ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

29 кастрычніка 1993г. № 43 (3713) Кошт 10 руб.

## НЕАДМЕННЫ САКРАТАР АДРАДЖЭННЯ

**_Язэп ЯНУШКЕВІЧ: «За сваю не такую ўжо і кароткую палітычную кар'еру Ластоўскі ўсвядоміў: разумную галованьку ніякі меч не бярэ — ні польскі, ні германскі, ні латвійскі, ні расейскі. Ды ў іншым агні гартаваўся ў руках бальшавікоў «карающий меч революции»._**

**СТАРОНКІ 3, 14—15**

## «Я — НЕ ПАЛІТЫК! Я — ПІСЬМЕННІК!»

**_Гутарка Алеся МАРЦІНОВІЧА з Іванам ЧЫГРЫНАВЫМ._**

**СТАРОНКІ 5, 12**

## КАНЕЦ ЭПОХІ

**_Апавяданне Міколы СЕРДЗЮКОВА._**

**СТАРОНКІ 8—9**

## МЫ ДУМАЛІ ПРА ГЭТА ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ГОД

**_Мікалай ПАШКЕВІЧ: «Столькі гадоў пражыўшы на Захадзе, як магу я не лічыць сябе беларусам? Гэта не ўваходзіць ні ў якія бухгалтэрыі. Лічу я сябе ці не — я беларус. Мастак ніколі не імкнецца ў чужую краіну. Ён імкнецца пабачыць, свабодна паехаць, але не жыць там; працаваць на вопыце іншых краін, але — культаваць сваю»._**

**СТАРОНКІ 10—11**

## БУДЗЕ ЎСЁ САМАЕ НОВАЕ

**_Да III міжнароднага фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы»_**

**СТАРОНКІ 10—11**



«Здабыткам нумар адзін» назвала Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ, рэктар Беларускага універсітэта культуры, сваіх выкладчыкаў і студэнтаў, калі 15 кастрычніка былы Інстытут культуры ўрачыста адзначаў, можна сказаць, святкаваў сваё пераўтварэнне ў гэты самы універсітэт. Пераўтварэнне, або наданне «здабыткам нумар адзін» універсітэцкай годнасці — трэба думаць, і універсітэцкіх магчымасцяў? Так, людзі, іх якасці, намаганні ды паўсядзённая праца перадумовілі, мабыць, не чарговую змену шыльды на будынку. Нават самы павярхоўны позірк выхапіць з шэрагу дбайцаў будучага універсітэта і знакамітыя, і знаныя, і вядомыя імёны дзеячаў навукі і мастацтва. «Сюды ідуць людзі асаблівыя, накіраваныя, самаахвярныя, а то і фанатычныя руплівцы культуры», — гучалі рэктаравы словы пра ўстанову, якая, бадай, адзіная на Беларусі рыхтуе спецыялістаў па шматлікіх галінах духоўнай культуры...

Васемнаццаты інстытуцкі год зрабіўся першым універсітэцкім. Васемнаццаць гадоў таму можна было выбіраць з трох спецыяльнасцей, цяпер — з трыццаці. З першага курса студэнтам прапануюць займацца па вучэбных планах, складзеных паводле агульнаеўрапейскіх узораў і запатрабаванняў...

У добры шлях, універсітэт культуры!

**Ж. ЛАШКЕВІЧ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*



Кола дзён

*Дайно заўважана: палітычнае жыццё таксама падпарадкоўваецца законам прыроды — прыліў, адліў, зноў прыліў; альбо — бурлівы дзень, ноч на адпачынак, новы дзень... Мяркуючы па ўсім, пасля некалькіх тыдняў уздыму, зараз мы перажываем чарговы спад актыўнасці. Што гэта: зацішша перад бурай, перад блізкай чарговай сесіяй? Магчыма. Але хутчэй — не: бурных дэбатаў не будзе. Дазволім сабе зрабіць ПРАГНОЗ тыдня: Вярхоўнаму Савету і Саўміну, якім не ўдалося «здаць» Беларусь Расіі, давядзецца «здавацца» самім — ісці на нечарговыя выбары вясною 1994 года. Камуністычная бальшасць і ветэраны, вядома, паспрабуюць пазмагацца, аднак і яны капітулююць перад бездапаможнасцю гэтага ўрада і парламента, у якіх няма іншых праграм выхаду з глыбокага крызісу ў краіне, акрамя «двухбаковага альбо шматбаковага Саюза з Расіяй». Саюз трэба сёння, але занятай перадвыбарчай гульнёй Расіі зараз не да нас. І таму зрабіць «добрую міну пры дрэннай гульні», адцягнуць увагу народа ад краху эканамічнай палітыкі нашым кіраўнікам можна толькі з дапамогай новых выбараў. Прыехалі?*

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

26 кастрычніка з кароткачасовым візітам на Беларусі пабываў дзяржсакратар ЗША Уорэн Крыстафер. Ён правёў перамовы са Станіславам Шушкевічам, Вячаславам Кебічам і Пятром Краўчанкам. На выніковай прэс-канферэнцыі спадар Крыстафер сказаў, што мэтамі ягонай паездкі ў Маскву, Алматы, Кіеў, Мінск з'яўляюцца — скарачэнне ядзерных арсеналаў і заахвочванне новых незалежных дзяржаў да правядзення палітыкі нераспаўсюджвання ядзернай зброі. У. Крыстафер высока ацаніў ролю Беларусі, якую наша краіна адыграла ў скарачэнні ядзерных сродкаў на тэрыторыі былога СССР і выказаў падзяку ёй за гэта ад усяго міжнароднага супольніцтва. «Злучаныя Штаты зацікаўлены ў тым, каб не было адступлення ад тэмпаў дэмакратычных рэформаў на Беларусі, — падкрэсліў У. Крыстафер. — Як мы разумеем, тут ёсць намер правесці ў сакавіку 1994 года новыя парламенцкія выбары. Гэтая дэмакратычная тэндэнцыя вітаецца Злучанымі Штатамі, і мы гатовы прадставіць тэхнічную дапамогу для правядзення гэтых вельмі важных выбараў у сакавіку 1994 года».

## ВЫДАННЕ ТЫДНЯ

На мінулым тыдні ў магазінах «Белдруку» з'явілася вясковая газета «Новая земля», заснаваная Беларускім саюзам фермераў. Некаторым артыкулам, што надрукаваны ў нованароджаным выданні, маглі б пазайздросціць і «сталыя» газеты — «Трохгаловы беларус» скаціўся з горкі», «Нет в колхозе такой силы, которая бы заставила человека хорошо работать», «Я знаю...» і інш. Вядома, усталявацца ў нашым наскрозь манапалізаваным рынку «Новай зямлі» будзе цяжка, аднак у «Белорусской нивы» з'явіўся дастойны канкурэнт. З «Новай зямлі» вылучым і ЦЫТАТУ ТЫДНЯ: «Если «Рассвет» выстоял и чего-то достиг, то потому, что держался на держиморде. Сначала Орловский, а потом такой же был — Старовойтов.. Колхоз — не жизненная организация... Один физически сильный, другой слабый. Один лодырь, а другой работяга. А получают одинаково, потому что трудятся коллективно. Это — порок колхоза... Нет в колхозе такой силы, которая бы заставила человека хорошо работать». Пакінем гэтае амаль сенсацыйнае выказванне двойчы Героя сацпрацы, старшыні знакамітага калгаса «Рассвет» Кіраўскага раёна В. Старавойтава без каментарыяў. Тут, як кажуць, ні дадаць, ні адняць...

## НЕСЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Забароненая ў Расіі за падтрымку мяцежнікаў газета «Правда» друкуецца ў Мінску, як укладыш да тыднёвіка айчынных камуністаў «Мы и время». Аб'ём газеты і наклад, вядома, зменшыліся, а ўсё іншае: знешні выгляд, ідэалагічная скіраванасць — засталося без зменаў. Частка накладу, магчыма, падпольна будзе перапраўлена ў Расію, — паведамляе ўрадавая газета «Рэспубліка». І яшчэ адна НАВІНА: камуністычныя суполкі Беларусі актыўна рыхтуюцца да святкавання чарговай гадавіны кастрычніцкага перавароту. У Мінскі гарвыканкам накіравана заяўка на правядзенне 7 лістапада мітынгу і дэманстрацыі.

## «НЕЧАКАНАСЦЬ» ТЫДНЯ

Урад у чарговы раз паклапаціўся пра грамадзян Беларусі: з 1 лістапада г.г. мінімальны заробак будзе складаць 20 тысяч рублёў, а тарыфная стаўка першага разраду — 22 тысячы. Пастанова прынята «ў сувязі з павышэннем цэн на асобныя тавары і тарыфаў на паслугі», і, зразумела, у сувязі з ёй цэны на тавары і паслугі павысяцца зноў. Замкнёнае кола...

## ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

На расійска-беларускай, адкрытай з нашага боку, мяжы затрыманы шэсць беларускіх грузавікоў, на якіх вярталіся дамоў вадзіцелі, што дапамагалі Казахстану ўбіраць збожжа. Усе заробленыя грошы адабралі ў іх на дарозе рабаўнікі, у тым ліку і ў міліцэйскай форме, а грузавікі з заробленым зернем затрыманы пры «нелегальным» перасячэнні расійска-беларускай мяжы. З 20 кастрычніка шэсць беларускіх вадзіцеляў знаходзяцца пад арыштам. Іх чакае канфіскацыя аўтамашын, заробленага зерня і штраф 300 працэнтаў ад кошту груза. Пра гэта паведаміў карэспандэнту «Народнай газеты» адзін з вадзіцеляў — Валерый Скрыгалоўскі, якому ўдалося вырвацца з «палону». Якім будзе лёс беларускіх хлопцаў, што былі накіраваны ўрадам дапамагаць Казахстану і не ўкралі, а шчырай працай зарабілі зерне, — пакуль невядома.

## СЮРПРЫЗ ТЫДНЯ

Расійскія ўлады паведамілі, што вымушаны вярнуць на Беларусь 5 тысяч асуджаных, якія адбываюць пакаранне на тэрыторыі Расіі. Беларускія ўлады ў жаху: размясціць «дадатковы кантынгент» няма дзе, турмаў у нас катастрафічна не хапае...

## ПОКАЗКА ТЫДНЯ

У армянскага радыё спыталі: «Якая краіна самая вялізная ў свеце?» — Беларусь, — адказала армянскае радыё, — бо межы Беларусі цягнуцца ад Буга да Курылаў, турмы Беларусі — ажно на Калыме, а гавораць па-беларуску — у Амерыцы.

**P. S.** Вось як народ рэагуе на нашыя «адкрытыя» межы, на недахоп турма-месцаў і стан роднай мовы.

Кола дзён

З нагоды

# «ДЗІЦЯЧЫ ПАРЛАМЕНТ» ДАЕ «АЧКІ» ДАРОСЛАМУ?

Такі загаловак нарадзіўся пад уражаннем «Дзіцячага парламента» Беларусі. Услухоўваючыся ў дзіцячыя галасы, параўноўваў іх з галасамі многіх дарослых дзядзькоў-парламентарыяў. І — не на карысць апошніх. Не мог не падзівіцца яснасці, дакладнасці мыслення школьнікаў, непадробнасці іх пачуццяў, чыстае пакмкненняў, нарэшце, веданню жыцця.

Але спачатку два словы аб «Дзіцячым парламенце». Ён — дзецішча Беларускага дзіцячага фонду, які ўзначальвае няўрымслівы Уладзімір Ліпскі. Менавіта тут нарадзілася ідэя мець пастаянна дзеючы орган, дзе б дзеці самі маглі гаварыць аб набалелым, аб тым, што іх трывожыць, непакоіць у гэты складаны час эканамічнай разрухі і нястачы, час, які ўсім сваім цяжарам лёг на кволыя дзіцячыя плечы.

І вось 26 кастрычніка прыгожая глядзельная зала Мінскага гарадскога Дома піянераў /усё яшчэ піянераў/ запоўнілася вясёлым шчабятаннем дзятвы. Прызнацца, у першую хвіліну ў грудзі пракраўся халадок — надта ж усё гэта нагадвала ранейшыя камсамольскія і піянерскія злёты. Ды... Прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі, які адкрыў пасяджэнне «Дзіцячага парламента», уступным словам адразу вярнуў усіх на нашу шматпакутную зямлю з яе неўладкаванасцю і незлічонымі праблемамі: сотні тысяч беларускіх дзяцей і сёння жывуць у раёнах, прыняўшых удар чарнобыльскай катастрофы; з году ў год у рэспубліцы расце дзіцячая смяротнасць; няспынна пагаршаецца матэрыяльнае становішча шматдзетных сем'яў; у вялікім даўгу перад дзецьмі наша медыцына, школьная адукацыя, культурныя ўстановы, органы сацыяльнага забеспячэння,

Адгалоскі

# «КАДЫШ — ЖАЛЬБА»







На фоне крывавых разборак на абшарах СНД /грузіны з грузінамі і грузіны з абхазамі, таджыкі з таджыкамі і таджыкі з афганцамі, армяне з азербайджанцамі.../, зацяжных канфліктаў паміж «карэннымі» і «рускамоўнымі» ў краінах Балтыі і, нарэшце, на фоне грамадзянскай вайны ў Маскве, дзе рускія забівалі рускіх, мерапрыемствы па ўшанаванні памяці габрэяў — ахвяр генацыду, што ладзіліся на мінулым тыдні ў сталіцы і па ўсёй нашай краіне, вылучаючца як узор цывілізаванасці, як сведчанне высокай культуры і выдатных маральных якасцяў беларускай нацыі. У адрозненне ад нашых суседзяў мы не падзяляем дзяцей сваёй зямлі на «белых» і «іншых» па ідэалагічным, этнічным, канфесійным альбо яшчэ якім-небудзь прынцыпе. Мы смуткуем па ўсіх бязвінных ахвярах, не звяраючы свае пачуцці з пашпартнай графою «нацыянальнасць».

У мерапрыемствах «Кадыш — Жальба» бралі ўдзел дзяржаўныя ўстановы і творчыя саюзы. У Нацыянальнай бібліятэцы адкрылася выстава габрэйскіх кніг, у кінатэатры «Беларусь» прайшоў тыдзень габрэйскага кіно, адкрылася спецыяльная экспазіцыя ў Беларускім дзяржаўным музеі Вялікай Айчыннай вайны, там жа прайшла і навуковая канферэнцыя. Глыбей асэнсаваць унёсак беларускага габрэйства ў агульнанацыянальную скарбніцу мастацтва дала рэтраспектыўная выстава ў Палацы мастацтваў. Кульмінацыяй Дзён жальбы стала трохчасткавае пасяджэнне і канцэрт-рэквіем у Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета. Былі мітынгі і ўскладанні кветак да магіл пакутнікаў.

Гэтым разам урад нават выдаткаваў на святую справу грошы /што для яго, здаецца, не надта характэрна; у Дзень Незалежнасці нават не было нацыянальных сцягоў на праспекце Скарыны — трэба думаць, эканоміі.../. Падсумоўваючы, так і хочацца сказаць: умеем, калі захочам. Усё было сапраўды і на дзяржаўным узроўні, і без афіцыёзнасці.

І ўсё ж не-не ды і паўставала пытанне: чаму аб трагедыі мінскага гета, аб трагедыі беларускага габрэйства голасна загаварылі толькі зараз? Чаму ўсе пасляваенныя дзесяцігоддзі маўчалі сведкі, гісторыкі, дзяржаўныя людзі?

19—22 кастрычніка беларуская нацыя нарэшце годна ўшанавала памяць сваіх сыноў і дачок — ахвяр фашыстоўскіх катаў. Тое, што сёння на гэта не трэба прасіць дазволу «Цэнтра» — адзнака ўмацавання нашай дзяржаўнасці. Беларусы і габрэі стаялі побач ля сцяны смерці, у нас агульная памяць і агульны клопат пра заўтрашні дзень.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

наогул, дзяржава, усе мы. «Міжнародная канвенцыя па правах дзіцяці, падпісаная Беларуссю, — падкрэсліў Уладзімір Сціпанавіч, — па многіх сваіх пазіцыях не выконваецца».

Потым пачалася «парламенцкая дыскусія». Розныя гэта былі выступленні /у парламент было абрана 168 дэлегатаў з усіх раёнаў рэспублікі/, але пераважалі глыбокія, страсныя, пра якія кажуць: «крык душы». Памеры газетнай інфармацыі не даюць мне магчымасці пераказаць іх. Назаву толькі некаторыя праблемы, якія закраналіся прамоўцамі. Дзяржава павінна ўстанавіць ільготы для школьнікаў у набыцці вучнёўскай формы, ранцаў, сшыткаў, кошт якіх сёння цяжарам кладзецца на бюджэт амаль кожнай сям'і. Тое самае і са школьным харчаваннем, якое многія вучні не могуць сабе дазволіць з-за яго дарагоўлі. Шмат папрокаў было выказана па адрасе школьнай адукацыі. Веды, якія вучні атрымліваюць у многіх школах, не адпавядаюць патрабаванням, што прад'яўляюцца абітурыентам ВНУ. Яшчэ. Пасля ўвядзення платнага навучання ў музычных і мастацкіх школах многія навучэнцы вымушаны былі пайсці з іх. Асобныя дэлегаты ўзнімалі пытанне аб змяненні дзеючага заканадаўства аб дзіцячым працаўладкаванні ў бок зніжэння ўзроставага парога. Або вось яшчэ праблема, прадыктаваная часам, — стварэнне школ бізнесу, падрыхтоўка моладзі да працы ва ўмовах рынчнай эканомікі. Ці такое пытанне — якія маладзёжныя арганізацыі павінны прыйсці на змену камсамольскім і піянерскім? Набалелае — школа гарадская і школа вясковая: чаму паміж імі такая розніца і ва ўзроўні навучання, і ў матэрыяльнай базе? Шмат гаварылася аб праблемах дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў, наогул аб жыцці дзяцей-сірот, якія ў дзяржавы часта адчуваюць сябе пасынкамі. Адна з дэлегатак усхвалявала залу расказам аб жыцці дзяцей-інвалідаў. Яна зачытала ліст, звернуты да «Дзіцячага парламента», — ліст дзяўчынкі, хворай на цэрэбральны параліч, якая ўсё сваё жыццё прыкавана да ложка і для якой інвалідная каляска з'яўляецца няздзейсненай марай.

Заўважым, што, як паведамілі прысутным У. Ліпскі, усе матэрыялы пасяджэння будуць перададзены ў Саўмін рэспублікі.

Застаецца дадаць на заканчэнне, што да дэлегатаў «Дзіцячага парламента» звярнуліся з прывітаннямі Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч і Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч.

**М. ЗАМСКІ**

Падпіска-94

## «ЛіМу» — ДАВЯРАЮ»

Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ,
рэктар Беларускага
універсітэта культуры:



— Чытаю і выпісваю «ЛіМ» са студэнцкіх часоў, але ўважліва і з задавальненнем — апошніх гадоў пяць-шэсць.

Па-першае, таму, што цалкам падзяляю яго ярка акрэсленую пазіцыю на дзяржаўны і нацыянальны суверэнітэт, яго ўпэўненую, нязменную, паслядоўную накіраванасць на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

Гэта няпроста, але тым больш важна, каштоўна ў сённяшнім «базарным» часе.

Па-другое, я давяраю гэтай газеце, яе мужнаму, таленавітаму калектыву, які прафесійна, разумна, інтэлігентна робіць сваю справу, аб'ектыўна падае аператыўную публіцыстычную інфармацыю, цікавы мастацтвазнаўчы і літаратурны матэрыял.

«ЛіМ» перарос рамкі газеты для літаратараў, мастакоў і музыкантаў. Ён даўно стаў агульнакультурнай з'явай, аб'ядноўвай інтэлігенцыю не па сферы заняткаў, а па светаўспрыманні, узроўні мыслення і свядомасці.

Я давяраю мастацкім густам стваральнікаў газеты, якія дапамагаюць арыентавацца ў сучасных літаратурных і мастацкіх справах.

Маю і асабістую патаемную прычыну — менавіта ў «ЛіМе» напрыканцы 60-х быў апублікаваны мой першы артыкул...

Іван МІРОНЧЫК,
доктар медыцынскіх
навук, прафесар



Як стары падпісчык і чытач штотыднёвай газеты «Літаратура і мастацтва», ці, скарочана, «ЛіМа», лічу, што гэта газета не толькі беларускай інтэлігенцыі. Яна проста неабходна ўсім грамадзянам нашай краіны. Таго, хто не лічыць сябе інтэлігентам, яна навучыць стаць ім. Таго, хто недастаткова ці зусім нацыянальна несвядомы, яна зробіць патрыётам. А з псеўдаінтэрнацыяналіста яна выхавае сапраўднага інтэрнацыяналіста. Гэта газета праўдзівая, змястоўная, цікавая і вучыць людзей толькі дабру. «ЛіМ» — гэта духоўны хлеб нацыі. А выпякаюць яго сапраўдныя майстры сваёй справы. Хто раз падпісаўся на «ЛіМ», той пасябруе з газетай на ўсё жыццё.

**БУДЗЬМА РАЗАМ!**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі
Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63856** (індэкс выдання)

**«Літаратура і мастацтва»**

Колькасць камплектаў

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____________ (паштовы індэкс) ____________ (адрас)

Каму ____________ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | літар

на газету **63856** (індэкс выдання)

**«Літаратура і мастацтва»**

| Кошт | падпіскі ______руб.____кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|
| | пераадрасоўкі ______руб.____кап. | |

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____________ (паштовы індэкс) ____________ (адрас)

Каму ____________ (прозвішча, ініцыялы)

Язэп ЯНУШКЕВІЧ

# НЕАДМЕННЫ САКРАТАР АДРАДЖЭННЯ

## ДА 110-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

***Гады два таму маладзейшыя калегі, складальнікі зборніка «Іменаў распятых вяртанне», запрапанавалі напісаць артыкул-партрэт Вацлава Ластоўскага /менавіта пра Власта і чамусьці мне, цалкам завязанаму на часе Дуніна-Марцінкевіча, Багрыма ды Багушэвіча/. Узяць гэткі пласт-глыбу, што завецца творчай спадчынай Ластоўскага, было няпроста. Таму, аддаўшы ў тэрмін артыкул, непадуладны сабе працягваў спасцігаць жыццёвы і творчы шлях былога прэм'ер-міністра БНР. У выніку паўстаў рукапіс «Неадменны сакратар Адраджэння» для акадэмічнай серыі «Нашыя славутыя землякі». У юбілейныя дні прапаную ўвазе чытачоў «ЛіМа» адзін з раздзелаў гэтага рукапісу «У Савецкай Беларусі».***

***І яшчэ. Эпіграфам да эсэ пра Ластоўскага я выбраў чатырохрадкоўе з Вянка Вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы» Змітрака Марозава. Апошні радок мне ўвесь час карцела скасаваць. Але нядаўнія крывавыя падзеі ў Маскве /захоп Белага дома,ператворанага пры штурме ў чорны гмах/ пераканалі: радок не лішні. Заўсёдны радасна-трывожны ўздых «дабро перамагло» праўдзіва застаецца пад знакам запытання.***

***Бо ўслед нам прыходзяць новыя пакаленні.***

***Аўтар.***

*З нас кожны задні*
*розумам багаты!*
*З крыжоў здымаем*
*тысячы распятых,*
*Што чашу веку выпілі*
*да дна.*
*Дабро перамагло?!*

## У САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

«Здзяйсненне сапраўднае суверэннасці нашага народа, сапраўднае незалежнасці адбудзецца толькі ў Вільні, ці... нідзе. Менск — этап у развіцці і поступе нашае ідэі», — напіша Антону Луцкевічу з Прагі ў пярэдднавагоднюю ноч, 29 снежня 1925 года, малады Уладзімер Жылка. «Максімалізм» прыведзенага выказвання тлумачыцца найперш уражаннем паэта ад Луцкевічавага артыкула «Вільня ў беларускай літаратуры». Дакладней, Жылкавы «Вершы аб Вільні» з дыяментавым радком «О, Вільня, крывіцкая Мекка!», апублікаваныя Луцкевічам, натхнілі апошняга на згаданы артыкул. Больш слушным у Жылкавым лісце падаецца сцвярджэнне /таксама прыватнага характару/ з нагоды магчымага адкрыцця літаратурнага аддзела ў «Беларускай Ніве», друкаванай трыбуне Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады: «Адной палітыкай далёка не ўгонім». У паэтавым уяўленні палітыка ўсяго «надстройка», а народу «трэба будова».

Да сярэдзіны 1920-х гадоў большасць беларусаў на эміграцыі спакваля прыходзіла да высновы: адбудоўванне беларускай дзяржаўнасці найбольш рэальнае ў Савецкай Беларусі.

Прызнанне Менска адзіным цэнтрам нацыянальнага адраджэння адбылося на так званай II Усебеларускай канферэнцыі ў Берліне 12—16 кастрычніка 1925 года, наладжанай Аляксандрам Цвікевічам з відавочнай мэтай: роспуск урада БНР на карысць БССР. Задуманае атрымалася, хоць з юрыдычнага боку акт не меў законнай моцы: урад Цвікевіча Прэзідыум Рады БНР не зацвярджаў. Аб'яўленая міністрамі Пракулевічам, Зайцам і іншымі адстаўка — факт з іхняй уласнай біяграфіі. «Навошта Вы гэта зрабілі?» — настойліва дапытваўся ў Цвікевіча рэзкім голасам Міхась Чарот, ідучы з ім па Фрыдрыхштрасэ, даводзячы ці не словамі Аркадзя Смоліча: «Гэта памылка! Пакуль вы былі тут, за мяжой, нам лягчэй было там весці нацыянальную палітыку...»

Трохі раней Жылка ў лістах да Антона Луцкевіча не па-маладому трапна заўважыць: «Камуністы ў грунце варожы беларускай сялянскай стыхіі і нашай нацыянальнай ідэі. Усё, што робіцца ў Менску /а не столькі той работы, як галасу/, ёсць не ласка, а ўступка з бою. Жаданне бел. камуністаў манапалізаваць беларускі рух — тактычны крок...».

Магчымым тактычным крокам пракамуністычнай Беларусі стала наладжаная ўвосень 1926 года Інбелкультам навуковая канферэнцыя па праблемах рэформы беларускага правапісу. На яе запрасілі вучоных з паў-Еўропы. Не забыліся і на суродзічаў. Ад пражскіх беларусаў прыехаў Уладзімер Жылка, ад латвійскіх — Кастусь Езавітаў, ад літоўскіх — Вацлаў Ластоўскі. Ад заходніх беларусаў праравўся неяк /на сваю бяду/ адзін Францішак Аляхновіч. Ні Луцкевічу, ні Тарашкевічу, ні Янку Станкевічу, ні Ігнату Дварчаніну польская ўлады візу на выезд не далі.

У напісаных неўзабаве «Ураджаннях з паездкі ў Беларускую Радавую Сацыялістычную Рэспубліку» рэдактар «Крывіча» куды дэталёвей спыніцца на ўбачаным ім «савецкім ладзе жыцця», чым на мованазнаўчых праблемах. Ад канферэнцыі ў памяці трывала засталася «ўсякая адсутнасць духу партыйнасці» /як ацэніць рыжскі «Голас Беларуса»/, калі выносілі бюст Леніна з залы пасяджэнняў, уквечаны бела-чырвонымі стужкамі. У асабістых паперах гось

(Працяг на стар. 14-15)

# ТРЫВОЖНЫЯ ЛІЧБЫ

## ПЕРЫЁДЫКА БЕЛАРУСІ: СТАТЫСТЫКА-КАРТАГРАФІЧНЫ АНАЛІЗ

У лабараторыі этнічнай геаграфіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта /былога Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага/ быў праведзены аналіз дынамікі і геаграфіі перыядычных выданняў, што выходзяць у Беларусі ў апошнія гады.

Аналіз паказаў, што з 1990 па 1992 год на Беларусі назіраюцца два працэсы: з аднаго боку, мае месца павелічэнне колькасці газет на мовах насельніцтва Беларусі і, з другога боку, памяншэнне іх агульнага тыражу. Так, за гэты перыяд колькасць усіх газет, што выдаюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, павялічылася з 223 да 348, у той час як іх агульны гадавы тыраж зменшыўся з 1.033.432 тыс. экз. да 694.559 тыс. экз. /г. зн. на 33 працэнты/.

Тая ж дынаміка назіраецца і ў адносінах часопісаў. Іх колькасць з 1990 па 1992 год павялічылася з 39 да 48, у той час як іх агульны гадавы тыраж зменшыўся з 41.379 тыс. экз. да 24.624 тыс. экз. /г. зн. на 40 працэнтаў/.

А вось як выглядае дынаміка газет і часопісаў па мовах выдання. Па-першае, трэба адзначыць, што калі ў 1990 г. колькасць беларускамоўных газет перавышала колькасць рускамоўных /132 і 88/, то ўжо ў 1992 г. дынаміка змяняецца на карысць рускамоўнай перыёдыкі /163 газеты на рускай мове і 157 газет на беларускай/. Падобнае назіраецца і ў адносінах часопісаў. Калі ў 1990 г. выходзіла 22 часопісы на беларускай мове і 16 на рускай, то ў 1992 г. рускамоўных часопісаў ужо выходзіць 50, а беларускамоўных усяго толькі 30. Зыходзячы з усяго гэтага, можна зрабіць адпаведныя высновы. На прыведзенай картасхеме дадзена геаграфія перыядычных выданняў, што выходзяць у Рэспубліцы Беларусь.




ЛАБАРАТОРЫЯ ЭТНІЧНАЙ ГЕАГРАФІІ
© МІНСКАГА ПЕДІНСТЫТУТА.

ВЫКАНАЎ А. В. САЎЧЭНЯ.




Разгледзім больш падрабязна дынаміку газет і часопісаў па мовах выдання.

Як ужо гаварылася, назіраецца рост колькасці газет як на рускай мове, так і на беларускай. А вось іх агульны гадавы тыраж моцна змяншаецца /асабліва вялікае падзенне гадавога тыражу назіраецца ў перыёдыцы, якая выходзіць на беларускай мове/. Так, з 1990 па 1992 год агульны гадавы тыраж газет памяншаецца: беларускамоўных — з 343.356 тыс. экз. да 139.459 тыс. экз. /г. зн. у 2,5 раза!/, у той час, як рускамоўных — з 677.986 тыс. экз. да 407.055 тыс. экз. /г. зн. на 40 працэнтаў/.

Дынаміка двухмоўных беларуска-рускіх газет крыху адрозніваецца ад вышэйпрыведзеных; назіраецца павелічэнне як колькасці /з 2 да 25/, так і тыражу /з 12.090 тыс. экз. да 147.676 тыс. экз./ газет.

У 1992 г. з'яўляюцца новыя для Беларусі газеты: гэта чатырохмоўная беларуска-«заходнепалеска»-украінска-руская з гадавым тыражом у 63 тыс. экз., на польскай мове — 276 тыс. экз. і на англійскай — 30 тыс. экз.

Аналагічная дынаміка назіраецца і ў адносінах часопісаў. На агульным фоне павелічэння іх колькасці іх агульны гадавы тыраж падае. Асабліва моцна гэтая тэндэнцыя праяўляецца ў адносінах беларускамоўных часопісаў. Так, з 1990 па 1992 год агульны гадавы тыраж часопісаў на беларускай мове памяншаецца з 26.562 тыс. экз. да 10.543 тыс. экз. /г. зн. больш чым у 2,5 раза/, у той час, як тыраж часопісаў на рускай мове амаль не змяншаецца — з 14.817 тыс. экз. да 14.042 тыс. экз. /змяншэнне на 5 працэнтаў/. У 1992 г. таксама з'яўляецца двухмоўны часопіс на беларускай і рускай мовах з гадавым тыражом у 30 тыс. экз.

А вось як мянялася дынаміка ў выданні газет і часопісаў па сталіцы. У 1990 г. у Мінску выходзіла 12 газет на беларускай, 33 газеты на рускай і 2 газеты на дзвюх мовах — рускай і беларускай. Да таго ж газета «Вячэрні Мінск» выдавалася асобна як на рускай, так і на беларускай мовах.

У 1992 г. колькасць усіх газет павялічваецца: беларускамоўных да 23, рускамоўных да 71, двухмоўных /беларуска-рускіх/ — да 8. З'яўляецца адна газета на англійскай мове. Што датычыць агульнага гадавога тыражу, то ён змяншаецца: у беларускамоўных выданнях з 71.785 тыс. экз. да 41.199 тыс. экз. /на 43 працэнты/, рускамоўных — з 573.098 тыс. экз. да 347.865 тыс. экз. /на 39 працэнтаў/. А вось агульны гадавы тыраж двухмоўных газет павялічваецца з 12.090 тыс. экз. да 133.000 тыс. экз. /у 11 разоў/.

**С. ПОЛЬСКІ,**
**загадчык лабараторыі этнічнай геаграфіі Беларускага педагагічнага універсітэта;**
**А. САЎЧЭНЯ,**
**навуковы супрацоўнік лабараторыі**

**АД РЭДАКЦЫІ.**

**Карысная рэч — статыстыка. Усё, пра што мы здагадваліся ці ведалі збольшага, з яе дапамогай набывае акрэсленасць і статус ісціны. Ісціна ў дадзеным выпадку для нас малапрыемная: беларуская дзяржава па-ранейшаму, на жаль, не зацікаўлена ні ў чым беларускім. Нават абвяшчэнне незалежнасці мала што змяніла ў стаўленні дзяржаўных інстытутаў да мовы, культуры, традыцый карэннай нацыянальнасці. Па сутнасці яны, інстытуты, не спрацоўваюць, нягледзячы на публічныя запэўніванні высокіх начальнікаў наконт «рэжыму найбольшага спрыяння». Міністр інфармацыі А. Бутэвіч, у прыватнасці, лічыць, што «сітуацыя з беларускамоўнай літаратурай сёння не такая ўжо і дрэнная». У параўнанні з чым, спытаемся? З тым, якой яна была ўчора ці будзе заўтра? Тут важна ведаць, у які бок рухаецца працэс, г. зн. дынаміку, а дынаміка гэтая, як вынікае з матэрыялу, унушае трывогу. Па ўсім відно:**

**а/ што энтузіязм і аматарства вычарпалі свае магчымасці ў справе нацыянальнага адраджэння;**

**б/ што без новых выбараў і новай улады нам не абысціся...**

Культура

# «У МІРЫ ПАЧУЛІ ДОБРУ НАВІНУ, ШТО АДНАВІЛІ ПАЎНОЧНУ АФІНУ»

Праўда, не аднавілі яшчэ, а толькі пачынаюць аднаўляць. У Паўночных Афінах /так называлі сучаснікі і сябры Міхала Агінскага яго маёнтак Залессе/ 25 верасня ўрачыста адзначаліся 228-ыя ўгодкі з дня нараджэння кампазітара.

Дом на беразе возера, альтанка, французская і англійская алеі, — такім было Залессе амаль дзве сотні год таму. Сучасная гісторыя яго не пашкадавала. Спачатку маёнтак Агінскага напаткаў лёс Радзівілаўскага палаца ў Нясвіжы — тут адчыніўся Дом адпачынку. Пазней размясціўся дом састарэлых. Скончылася гэта заняпадам: зарос парк, спарахнела любімая кампазітарава альтанка, а потым у доме абваліўся дах...

Апошнія гады ў Залессі справа скранулася з мёртвай кропкі. Вядзецца рэстаўрацыя, аднаўляецца будынак.

Адзінае незразумела: на месцы старога млына ля маёнтка будуецца ці то кавярня, ці то рэстаран. Ці не першы гэта крок на шляху да чарговага «акультурвання» гістарычнай рэліквіі?

**Н. МЕЙСАК**

# У ВЯНОК ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

У 1995 годзе Ларысе Геніюш споўнілася б 85 гадоў. І хоць да гэтага юбілею яшчэ далекавата, ужо цяпер ёсць магчымасць выдаць на яе радзіме зборнік вершаў, прысвечаных таленавітай беларускай паэтэсе. Кніжка будзе друкавацца ў Слонімскай узбуйненай друкарні. У першым квартале наступнага года яна павінна з'явіцца ў кнігарнях рэспублікі. Фундатары выдання ўжо ёсць.

Таму я звяртаюся да паэтаў: дасылайце свае вершы не пазней 1 снежня 1993 года на адрас: 231930, г. п. Зэльва Гродзенскай вобласці, Дом Саветаў, 4-ты паверх, рэдакцыя газеты «Праца».

**С. ЧЫГРЫН**

# ШКОЛЬНЫ, КРАЯЗНАЎЧЫ

музей адкрыўся ў СШ N 9 горада Жлобіна. Сярод тых, хто прыняў удзел ва ўрачыстасцях, быў ганаровы грамадзянін Жлобіна, пісьменнік Аляксандр Капусцін, аўтар шматлікіх твораў пра ўчарашні і сённяшні дзень гэтага кутка Бацькаўшчыны, у тым ліку і кніг, якія пабачылі свет у самім горадзе. Першую экскурсію правялі вучні дзевятага класа. Прысутныя пазнаёміліся з цікавымі матэрыяламі, што тычацца шматграннага жыцця Жлобіншчыны.

А. Капусцін падарыў музею свае кнігі з аўтографамі.

**Н. К**

Час і мы

# НЕ Ў ТЫХ ПЫТАЕМСЯ?

Якім будзе дзяржаўны гімн? Магу адказаць проста: такім, якім будзе наша ўяўленне пра сябе. Чалавек, нават недапытлівы, можа заўважыць, што паміж літаратурай і палітыкай існуе складаная і даволі цесная сувязь. Бо, вядома ж, з пачатку было Слова.

З музыкаю не ўсё так проста. Больш дасведчаныя спрадвеку гэтую сувязь бачылі і нават рабілі захады, каб паставіць яе на службу грамадскім інтарэсам і сабе на карысць.

І ў нашы часы ёсць філосафы, якія сцвярджаюць, што музыка — адбітак нацыянальнага лёсу і што па ёй можна вывучаць палітычную геаграфію. Так, даследчык Г. Гачаў дасціпна тлумачыць ролю медных інструментаў у аркестры Р. Вагнера здзяйсненнем мары германскай нацыі аб аб'яднанні Германіі ў 19 ст. Іншыя даследчыкі падкрэсліваюць, што ўзнікненню ў Еўропе нацыянальных дзяржаў папярэднічаў уздым нацыянальных культур. Бо сапраўды — «хлеб-вада», ці як сёння кажуць некаторыя дыспутанты, «каўбаса-гарэлка» нацыянальнай прыналежнасці не маюць. Дзяржава можа быць якой заўгодна паводле палітычнага ладу, паводле дачыненняў з суседзямі, але без нацыянальнай культуры не будзе яна нацыянальнай дзяржаваю. Нашы суседзі ў Летуве разумелі гэта нават у час панавання камуністычнай ідэалогіі і не спяшаліся да зліцця ў «адзіны савецкі народ».

У нас жа родная мова сталася адно мовай культуры, а «народ» гаворыць на другой. Вось гэта сапраўды адметная нацыянальная рыса — думаем-гадаем, як вярнуць народу мову культуры? Сама ж наша культура, якая шчыра і рупліва рыхтавала перадумовы стварэння нацыянальнай дзяржавы, як і ідэя такой дзяржавы, знаходзіцца, відавочна, на перыферыі палітычнага зроку цяперашніх гаспадароў. Для іх больш прымальная канцэпцыя дзяржаўнай федэрацыі і развіцця культуры ў межах культурнай аўтаноміі. Адмоўныя вынікі такой палітыкі добра відаць ужо цяпер. Як аказалася, мы не маем таго, што складае інфраструктуру культуры: канцэртных залаў, паўнавартасных навучальных установаў, студый і фабрыкі грамзапісу, нотнага выдавецтва, у занядбаным стане музеі і помнікі культуры, тэхнічнае начынне радыё і тэлебачання, дамы творчасці і месцы адпачынку, нарэшце. Культура існуе па інерцыі ў прывычна-каланіяльным рэчышчы: на экспарт спраўна пастаўляем сувенірна-экзатычны «фальклор», а сабе у моцных дозах прышчапляем вірус масавай культуры метраполіі. Не важна, дзе знаходзіцца яна — на ўсходзе ці на захадзе.

А як быць маладым, па-сапраўднаму таленавітым, адзначаным высокімі ўзнагародамі на міжнародных конкурсах — спевакам, інструменталістам, кампазітарам? Да сябе мы па старой звычцы таксама не вельмі пускаем сапраўды новае, інтэлектуальнае, авангарднае мастацтва.

Жыццё культуры і яе творцаў праходзіць у нейкім дзіўным вымярэнні, дзе пануюць законы неіснуючай дзяржавы, і пісаныя і няпісаныя, сярод матэрыяльных помнікаў чужынскай ідэалогіі. І ўсё гэта — пад прапагандысцкую балбатню пра Адраджэнне. Прабачце, але гэта чарговы і небяскрыўдны міф, народжаны яшчэ ў парткабінетах на пачатку «перестройки», каб адцягнуць увагу ад палітычных перамен. Больш неспрыяльных умоў для сапраўднага Адраджэння цяжка нават уявіць, бо на ўсе эканамічныя і экалагічныя цяжкасці накладваецца палітычная здрада пэўнай часткі кіруючых колаў. Яны нас ласкава пытаюць: на якой мове зручней гаварыць, можа, дзе літарку пераставіць, якая мелодыя гімна больш даспадобы? Каб толькі не адказваць на пытанне: у якой дзяржаве мы хочам жыць? Дарэчы, у беларусаў пра гэта ніколі і не пыталіся. А каб творчая інтэлігенцыя не лезла з такімі нязручнымі пытаннямі, то яшчэ хітрыя вынаходнікі з былога Вярхоўнага Савета СССР у парыве барацьбы з усялякімі прывілеямі ў Законе аб грамадскіх арганізацыях і аб'яднаннях свядома прынізілі творчыя саюзы, паставіўшы іх у адзін шэраг з аб'яднаннямі філатэлістаў і аматараў піва. І, як цяпер трэба разумець, іхняе існаванне і дабрабыт залежаць ад вялікае ласкі «дэмакратычнага» чыноўніка, які, напусціўшы туману пра прывід рынку, з паблажлівым здзекам раіць творчым саюзам вучыцца самім зарабляць.

Але ж, ганьба такому ўраду і дзяржаве з такімі законамі, якія прымушаюць творчую інтэлектуальную эліту сваёй нацыі займацца заробкам грошай спосабамі, мякка кажучы, далёкімі ад іх асноўнай дзейнасці.

Можа, сёння і службоваму люду цяжка разабрацца, «хто ёсць хто», бо «творчых саюзаў» развялося, як чарнобыльскіх фондаў? Ды яшчэ з'явілася нейкае дзіва — канфедэрацыя творчых саюзаў, якая са сваім чыноўніцкім імпэтам паспела паставіць подпіс пад сумнавядомай «верноподданической» заявай. То давайце разам разбяромся. Мо хто пакрыўдзіцца, але нагадаю, што мастацтвы адрозніваюцца адно ад другога спосабам адлюстравання /рэчаіснасці, магчыма,/, існавання, і — паводле адносінаў да сродкаў вытворчасці. З іх свабодныя, ці чыстыя, віды — жывапіс, літаратура, музыка, ды сінтэтычныя — тэатр, кіно, і яшчэ ўмоўныя — некаторыя віды рамёстваў.

Першыя тры — аб'ядноўваюць у сваіх саюзах толькі творцаў, асоб, якія вырабляюць канчатковы культурны прадукт, для якіх іх прафесійная праца — адзіная форма жыццёвага існавання. Яны назапашваюць, збіраюць, узбагачаюць, абагульняюць, перадаюць нацыянальныя духоўныя каштоўнасці, рысы, характары і памяць. Яны — нацыянальны здабытак, які вымагае асаблівых адносін і аховы незалежна ад попыту і кан'юнктуры. Саюзы двух другіх мастацтваў — гэта творча-вытворчыя аб'яднанні, звязаныя з вытворчасцю, якая пры спрыяльных умовах можа паспяхова існаваць і здольная сама абараніць сваіх дзеячаў, што, дарэчы, не выключае дзяржаўнай дапамогі. Трэція — гэта сапраўды грамадскія аб'яднанні аматараў нейкай галіны мастацтва ці рамяства.

Беларускі закон аб грамадскіх арганізацыях павінен быў бы ўлічыць гэтыя акалічнасці і надаць творчым саюзам мастакоў, літаратараў і кампазітараў статус Нацыянальных саюзаў.

Мы не хочам быць утрыманцамі, мы хочам толькі павагі і незалежнасці. Павагі з боку дзяржавы ў выглядзе «Закона аб ахове аўтарскага і сумежнага права» і незалежнасці ад чыноўніцкай ласкі. Мы просім аб гэтым, крычым — нас не чуюць. Мы хочам яшчэ паслужыць свайму народу, і гэта не пустыя словы. Ёсць у нас і таленты, і самаахвярнасць. Ці, можа, дзяржаве, якую будуюць нашыя правадыры, нацыянальны падмурак не патрэбны?

Адкажыце мне на гэтае пытанне, і я скажу, якім будзе Дзяржаўны гімн. Дык што так доўга няма адказу? Можа, не ў тых пытаемся?

**Віктар ВОЙЦІК**, кампазітар

# Іван ЧЫГРЫНАЎ:
# «Я — НЕ ПАЛІТЫК! Я — ПІСЬМЕННІК!»

***Некалі Някрасаў напісаў: «Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан». Яшчэ некалькі гадоў назад гэтае выслоўе было хрэстаматыйным, пастаянна бралася на ўзбраенне афіцыйнай ідэалогіяй, каб падкрэсліць, што ў Савецкай Краіне літаратары, наогул творчая інтэлігенцыя з'яўляюцца падручнымі партыі, ставяць уласную творчасць на службу яе задачам і інтарэсам.***

***І з гэтым амаль усе пагаджаліся. А той, хто не пагаджаўся, атрымліваў бірку дысідэнта. Сёння сітуацыя змянілася. Няма ні «кіруючай», ні СССР. Жывём мы ў незалежнай суверэннай Беларусі. Аднак жа... У тым, што Беларусь павінна быць суверэннай, не сумняваецца ніхто. Ды толькі як разумець гэты самы суверэнітэт? Якіх саюзаў прытрымлівацца? Толькі чыста эканамічных ці, магчыма, і палітычных? Ды і саюзы маюць розныя формы, ажно да канфедэратыўных і нават федэратыўных... Ці ўсе мы дасканала разбіраемся ў гэтых пытаннях?***

***Як памятаюць, пэўна, шаноўныя чытачы, не так даўно кіраўнікі больш чым 20 палітычных і прафесійных аб'яднанняў Беларусі накіравалі Зварот да кіраўнікоў дзяржаў, парламентаў і ўрадаў незалежных дзяржаў — былых рэспублік СССР з прапановай аб утварэнні канфедэрацыі. У многіх выклікала здзіўленне, што пад ім стаяць подпісы вядомых творчых дзеячаў, у прыватнасці, І. Чыгрынава, М. Яроменкі, Л. Екеля, Я. Кавалеўскага. Не ведаю як каму, а мне асабіста карцела даведацца хоць бы ў каго-небудзь з іх, якімі матывамі яны кіраваліся, падпісваючы гэты Зварот, як увогуле ставяцца да цяперашніх працэсаў у грамадстве.***

***Паразважаць аб гэтым згадзіўся старшыня праўлення Беларускага фонду культуры, галоўны рэдактар часопіса «Спадчына» І. ЧЫГРЫНАЎ.***

**— Іван Гаўрылавіч, якіх бы мы поглядаў сёння ні прытрымліваліся, а ўсё ж, бадай, цяперашні час у многім «смутны»?**

— Вы, бадай, маеце рацыю. Цяпер газеты, журналісты часта ловяць не дужа дасведчаных у палітыцы людзей на чым-небудзь і пачынаюць іх абвінавачваць. Мне здаецца, што эмоцыі пісьменнікаў, людзей мастацтва, культуры журналісты перабольшваюць, гіпербалізуюць. У адным з нядаўніх маіх інтэрв'ю скажона канцоўка, атрымалася проста глупства, выраз зусім не адпавядае стану рэчаў на сённяшні дзень. Як кажуць, да гвалту ў дачыненні да аўтараў даходзіць. Здаецца, і пры бальшавіках такога не было, хоць і тады хапала здзеку. Няйначай сённяшнія газетчыкі таксама адтуль. А варта было б усё ж прыслухоўвацца да голасу пераважна эмацыянальнага па прычыне розных абставін, які ідзе ад душы.

Як бы мы, людзі культуры, ні імкнуліся ў палітыку і ні спрабавалі зрабіць з сябе палітыкаў, гэта не ўдаецца. Ва ўсякім выпадку нікому яшчэ не ўдалося. Таму лепей было б, калі б пра палітыку, эканоміку ўсё ж пісалі спецыялісты. А так я падпісаў ліст — сумесна з некаторымі таварышамі, дзе гаворка ішла пра канфедэрацыю з краінамі, што ўваходзяць у СНД. Не трэба ўсё-такі забываць, што наш час — гэта не толькі час раз'яднання, а і інтэграцыі. Раз'яднанне там, дзе трэба раз'ядноўвацца, і інтэграцыя там, дзе неабходна аб'ядноўвацца.

А ўжо калі гаварыць пра дакладнасць выказвання, фармуліроўкі, дакладнасць самога тэрміна, то тут, я яшчэ раз магу паўтарыць: я — не палітык, я — пісьменнік, я — работнік культуры, работнік мастацтва. Таму і падыход да многіх важных спраў у мяне своеасаблівы. Тут справа ў самім падыходзе. Але ж не трэба залішне баяцца і слова — эмацыянальны. У эмоцыях ёсць шмат чаго каштоўнага. Сапраўды, прызнаюся шчыра: і на сённяшні дзень дакладна не ведаю, што такое федэрацыя, а што такое канфедэрацыя. Пасля надрукавання пісьма пасыпаліся званкі. Ад знаёмых, незнаёмых, ад родных, сяброў: «Іван Гаўрылавіч, гэта ж шкодна цяпер выступаць за канфедэрацыю!» І я не ўспыліў ні разу, аднёсся да ўсяго сур'ёзна. Калі звоняць, непакояцца, значыць, нешта не так... Адным словам, лепей бы на самай справе спецыялістам ва ўсім разабрацца. Хоць на сучасны момант, у сувязі з добра вядомымі ўсім нам маскоўскімі падзеямі, якія адбыліся ў пачатку кастрычніка, становішча, канечне, пагоршылася. І як быццам не патрэбна ўжо ні федэрацыі, ні канфедэрацыі.

Дзіўна, што знаходзяцца людзі, якія гатовы і сёння яшчэ хоць каго абвінаваціць. Маўляў, не разумееш: нам трэба свой дом будаваць. Канечне ж, у першую чаргу неабходна ўзводзіць наш нацыянальны дом. Багацце ў трухлявую хату не панясеш, неабходна, каб гэтая хата была належным чынам даведзена да ладу, збудавана. Зрабілася сапраўды сваёй хатай. У даным выпадку — свая Рэспубліка, свая — Краіна, Беларусь! Ды гэтага ніхто і не стане адмаўляць. А калі хто і адмаўляе, то, значыць, не зусім усё разумее. Не да канца разумее. Добра б, канечне, было, каб адначасна ў хату начынне мець адпаведнае, нацыянальнае. І суседзяў добрых адшукаць, якія не толькі табе патрэбны, але якім і ты сам неабходны.

У нас вялікая гісторыя, яна змясціла ў сабе самыя розныя падзеі, самыя розныя стасункі, у тым ліку і гісторыю гвалту, калі можна так сказаць, гісторыю насілля, і таму падазронасць да імперскіх памкненняў абгрунтаваная. Безумоўна, мы не павінны зноў трапіць у цянёты чарговай імперыі, калі яна ўзнікне. А падзеі апошняга часу сведчаць, што ў Маскве вельмі ж імкнуцца да гэтага. Хочацца зноў мець ім вялікую экспансіянісцкую дзяржаву, якой бы падпарадкаваліся б іншыя народы.

Карыстаючыся выпадкам, хачу сказаць колькі слоў і пра наша Адраджэнне. Яно праходзіць з цяжкасцю. Я разумею, канечне, усіх, хто нясе нешта ў гэтае адраджэнне, нават часам з неспакоем. Разумею, калі бачу, што гэта на карысць нашай нацыянальнай справе, на карысць нашай незалежнасці. Я б, праўда, да самога слова Адраджэнне адносіўся б больш свядома. У тым сэнсе, што ўсё-такі гэта не зусім дакладны тэрмін. Мы ж яшчэ дакладна не вызначылі, што мы адраджаем. Дарма, што прынялі дэкларацыю аб незалежнасці. Мы ж шмат што менавіта аднаўляем. Таму, відаць, і трэба гаварыць у першую чаргу пра аднаўленне, працяг развіцця нашага грамадства. Гэта датычыць таксама і эканамічнага жыцця, пачынаючы ад самых старых часоў. Гэта зусім няправільна — «мы старый мир разрушим до основанья, а затем...» Хоць, кажуць на самай справе ў пралетарскім гімне было спярша інакш: «старый мир разроем...» Разрыць — адно, а «разрушить» зусім іншае.

Я чаму чапляюся за тэрмін? Справа ў

(Працяг на стар. 12)

Сярод кніг

# ТАК МЫ ЖЫЛІ...

Добра мець справу з пісьменнікам, творчасць і само аблічча якога амаль дакладна адпавядаюць класіфікацыі, прапанаванай нядаўна на старонках «ЛіМа». «Мастак», «філосаф», «трыбун», «патрыёт», «актор» — гульня наколькі займальная, настолькі і карысная: гнаная намі ў былыя часы «буржуазная сацыялогія», апісваючы розныя сацыяльныя і псіхалагічныя тыпы паводзін, вельмі памагае сваім суграмадзянам арыентавацца ў навакольным свеце. Іншая справа, што 100-працэнтных «халерыкаў» і «меланхолікаў», «аптымістаў» і «песімістаў» не так ужо і шмат. Абсалютная большасць складаецца са «змешаных тыпаў». Прырода эксперыментуе, спалучаючы ў характары аднаго чалавека розныя, нярэдка супрацьлеглыя, рысы. А ў выніку мы маем непаўторную чалавечую асобу як самую вялікую на свеце каштоўнасць.

Віктар Гардзей як чалавек і як пісьменнік не адпавядае ніводнаму з названых вышэй і іншых вядомых тыпаў. Ён проста «лірык» у тым распаўсюджаным у нашай літаратуры значэнні, у якім звычайна ўжываецца гэтае слова. Замілаванне да роднай зямлі, да простага люду, які жыве на гэтай зямлі, да яго звычаяў і душы ў лірыкаў прыкметна пераважае над іншымі пачуццямі. Пры гэтым аўтар, паводле «Паэтыкі» Арыстоцеля, «застаецца самім сабой, не змяняючы свайго аблічча». І ў паэзіі, і ў прозе. Хаця ў сваіх вершах В. Гардзей больш узнёслы і музыкальны, а ў апавяданнях, аповесцях імкнецца выявіць прадметны змест з'яў, сярод якіх выпала яму жыць, а яго душы пакутаваць, асэнсоўваць сябе і зрэдку — на жаль, толькі зрэдку — знаходзіць прычыны для радасці. Зрэшты, хто ў нас не «паэт у душы»?! Хто ў нас чысты празаік, які можа абыходзіцца без паэтычнага «падагрэву»?

Чытаем аповесць В. Гардзея «Па Сеньку і шапка», яе першыя радкі: «Галубоў у Малым Сяле процьма, і кадук іх ведае, якой яны пароды — ці вяхіры, ці клінтухі, ці проста нейкія дзікія прыблуды без роду і племені». Гадаем: калі гэта магло быць напісана? У паўлегендарныя часы «Міколкі-паравоза»? /А Сенька шмат чым нагадвае гэтага папулярнага да сённяшняга дня героя лынькоўскага вестэрна/. Тады чалавечая свядомасць, шакіраваная штодзённай жорсткай рэальнасцю, атручаная страхам рэпрэсій, міжволі шукала ў свеце прыстанішча, дзе б вока магло адпачыць, а душа пазбыцца на момант жахаў. А, можа, у пасляваенныя гады, калі пасля буралому, што прайшоўся па беларускім лесе, ціша і спакой цаніліся асабліва высока, і нашы лепшыя пісьменнікі /у гэтым выпадку лёгка ўзгадваюцца асобныя замалёўкі Я. Брыля/ чула ўспрынялі гэты паварот у грамадскіх настроях? Не, гэтыя радкі і сама аповесць напісаны зусім нядаўна, у час, калі паміж намі і нашым мінулым — парою залатога дзяцінства — пралёг глыбачэзны роў чарнобыльскай катастрофы і ўсё тое, што было некалі, здаецца ледзь не зямным раем, з якога мы былі выгнаны, як біблейскія грэшнікі Адам і Ева.

Так мы тады жылі. У галечы, у голадзе і холадзе, душачыся нішчымніцаю, прыніжаныя і абражаныя ўладаю, якая не лічыла нас за людзей, а бачачы адно толькі рабочае быдла. Мы міжволі ўцякалі ад рэальнасці ў свет паэтычных фантазій і шукалі, як герой аповесці Гардзея падлетак Сенька, гару Аліўную, на якой сядзеў Ісус, адкуль бачна ўсё далёка-далёка і «ўсё Малое Сяло як на далоні, а вечарамі нават відаць электрычнае зарава над Ганцавічамі». Сірата Сенька разам са сваім сябрам, калекаю Алёшкам па сваёй ахвоце ўзялі на сябе ролю «народных мсціўцаў», якія імкнуцца аднавіць справядлівасць у малым маштабе роднай вёскі, куды таксама дайшлі павевы хрушчоўскіх эксперыментаў у сельскай гаспадарцы, у народнай асвеце і інш. На жаль, беларусам, як і ў часы Ф. Багушэвіча, каб сцвердзіць сваю чалавечую годнасць, даводзіцца прыкідвацца дурнейшымі, чым яны ёсць на справе, хітраваць, блазнаваць, выяўляючы ў карнавале падзей іх унутраны сэнс. У гэтых адносінах проза В. Гардзея не толькі працягвае па-свойму адну з даўніх традыцый нашага прыгожага пісьменства, але і пацвярджае яе эстэтычную плённасць і жыццяздольнасць.

У празаічных творах гэтага пісьменніка апошні час наогул усё мацней гучыць сатырычная інтанацыя, надаючы яго голасу асаблівы сэнс. Асобныя малюнкі з правінцыйнага жыцця беларускага мястэчка, якія ўзнаўляюцца В. Гардзеем у аповесці «Уратуй ад нячыстага», дасягаюць узроўню своеасаблівай метафары нашага сучаснага быцця, у якім яшчэ столькі рудыментаў таго самага застойнага ладу і побыту. Вось, напрыклад, мясцовая мэрыя, як мы сёння сказалі б, рыхтуецца да сустрэчы высокага госця, які павінен прыляцець на верталёце. І які спалох прабірае наскрозь старшыню гарсавета, калі ён бачыць на самым прыкметным месцы, ледзьве не перад уваходам у будынак райкома, сляды таго, што там пабывала звычайная вясковая карова. Што зробіш, калі нашы населеныя пункты, у тым ліку і вялікія гарады, часцей за ўсё нагадваюць самыя звычайныя вёскі, дзе побач з плошчай дзеда Талаша можа знаходзіцца непрыкметны хляўчук з кароваю ці свінчом! У гэтым жахліва бюракратызаваным свеце, дзе які-небудзь сакратар райкома партыі Бацян ці старшыня райвыканкома Гаварушка адчувае сябе маленькім удзельным князьком, усё загадзя распланавана і разлінеена. І сустрэча з самім П. Машэравым распісана да хвіліны, а ён вось-вось павінен «упасці з неба»: плошча прыбрана, памыта, добра што не шампунем, начальства ўвесь час вызірае ў вокны і гатова да любой нечаканкі-неспадзяванкі, за кожным тоўстым дрэвам стаіць па міліцыянеру... Але ўмешваецца жывое жыццё, і ўсе гэтыя лёгкія збудаванні рассыпаюцца — у самы адказны момант да Машэрава прарываецца са сваёй дробязнай, як на погляд мясцовага кіраўніцтва, просьбаю пенсіянерка Цалагузіха, якая месяцамі аббівае парогі розных мясцовых устаноў, каб дамагчыся законнай пенсіі. Высокі госць, на шчасце, яшчэ нешта

*Віктар Гардзей. Уратуй ад нячыстага. Аповесці, апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1992.*

# АДДАНАСЦЬ КУПАЛАВАЙ ПАМЯЦІ

## ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ТАРЭНЯ МАСЭНКІ

Жыве, прамяніста лунае Купалава песня над шырокімі прасторамі Украіны. Сярод тых, хто спрыяў паразуменню слова песняра з украінскім чытачом, пачэснае месца належыць Тарэню Масэнку /1903—1970/ — аддананаму і вернаму сябру Беларусі.

Яны пазнаёміліся ў лютым 1928 года, калі ў Мінск на чале з Т. Масэнкам прыехала група ўкраінскіх маладнякоўцаў. У той жа год украінская і беларуская пісьменніцкія арганізацыі абмяняліся дэлегацыямі. Паэтам даводзілася сустракацца ў Харкаве, Кіеве, Тбілісі, Маскве. Былі новыя сустрэчы і ў Мінску. Купалу спадабаліся маладая няўрымслівасць украінскага паэта, рамантычная ўзнёсласць яго вершаў пра працоўныя будні землякоў.

А Т. Масэнка адразу адчуў, якое добрае ў Купалы сэрца: «Усё падабалася ў ім... Я. Купала для нас быў цудоўным прыкладам сапраўднага чалавека. Просты і шчыры. Ён быў такім, як яго песня, як сам народ». Т. Масэнку здавалася, што ў голасе Купалы ўвасоблена ўся пяшчота Беларусі. І яшчэ гарнуўся да свайго беларускага пабраціма за непадробленае захапленне ўкраінскай мовай, песняй, шаўчэнкаўскімі творамі — за гарачую прыхільнасць да ўкраінскай культуры. «Як маці-Беларусь, любіў ён Украіну», — гэта выклікала шчырую ўдзячнасць.

Творы беларускага песняра, паводле прызнання Т. Масэнкі, дыхнулі на яго «невыказнаю прыгажосцю, сілаю і свежасцю». З адказнасцю і любоўю перакладаў ён на сваю родную мову паэмы «Адвечная песня», «Бандароўна», «Барысаў», «Над ракою Арэсай» /у 1936 годзе выйшла на Украіне асобным выданнем, тады ж перакладчык прывёз кніжку ў Мінск і асабіста ўручыў яе



ўдзячнаму аўтару/, камедыю «Паўлінка» /працаваў над яе перакладам разам з П. Тычынам, асобнае ўкраінскае выданне было здзейснена ў 1952 годзе/, вершы «А хто там ідзе?», «Я не паэта», «Я мужык-беларус», «З песень аб мужыцкай долі», «Не жалейка йграе», «Вяртаюцца з выраю жоравы, гусі», «Песня і казка», «Хлопчык і лётчык» і інш.

Тарэнь Масэнка рэдагаваў першую грунтоўную кнігу Купалы на ўкраінскай мове /»Вибрані твори. 1905—1936". Кіеў — Харкаў, 1937/. Ён прыахвоціў многіх украінскіх паэтаў да перакладчыцкай працы над Купалавымі творамі.

Асоба і вершы Купалы настолькі ўразілі Т. Масэнку, што натхнілі на стварэнне ўласных твораў, у якіх выказана захапленне песняром Беларусі: вершы «Кабзар Беларусі», «Янка Купала», «У Кіеве», «Імя Янкі Купалы», «Мне Купала гаварыў...», «Слава Беларусі», «Вуліца Янкі Купалы», «Заўжды жывому ў памяці маёй», «Таполя», «Сустрэча з паэтам», «Дарога ў Мінск», «Прароцтва», «Прамова з дачкой», «Беларускай маці».

Незабыўны воблік беларускага песняра Т. Масэнка пранёс у сэрцы да канца дзён сваіх. Яму рупіла выявіць перад сучаснікамі і нашчадкамі адметныя рысы Купалавай прывабнасці. Т. Масэнка не шкадаваў часу і творчай энергіі, каб напісаць пра ўсё, чым яго моцна ўразіў Купала — чалавек і паэт. Успаміны і артыкулы дадаюць яркія штрыхі да партрэта таго, хто стаў гонарам і славай беларускай зямлі: «Да другой гадавіны смерці Янкі Купалы» /1944/, «Купала ідзе па Украіне» /1952/, «Родны наш Янка Купала» /1952/, «Перакліканне сэрцаў» /1957/, «Галінка барбарысу» /1970/ і інш. У беларускіх выданнях неаднойчы перадрукоўваліся насычаныя багатым фактычным матэрыялам успаміны Т. Масэнкі «Слова пра Янку Купалу». Цікавыя старонкі прысвяціў ён беларускаму песняру ў «Рамане памяці» /1970/.

**Цімох ЛІЯКУМОВІЧ**

# А Ў НАС «ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ»...

Калі ўлічыць нашу цяперашнюю цікавасць да фальклору, дык з'яўленне кнігі «Жаніцьба Цярэшкі» /выдавецтва «Навука і тэхніка», серыя «Беларуская народная творчасць»/ можна лічыць святам. Яшчэ б! Нарэшце дажылі да таго, калі ўпершыню сабраны разам, абагульнены /укладанне тэкстаў і каментарыі Л. Салавей, укладанне, сістэматызацыя і расшыфроўка музычнага матэрыялу, каментарыі і рэдагаванне І. Назінай, адпаведна ж яны напісалі і ўступныя артыкулы/ багаты матэрыял, што тычыцца старажытнай абрадавай гульні, што пашырана ў паўночных і цэнтральных раёнах Беларусі і прымеркавана да Каляд.

Для тых, хто пра «Жаніцьбу Цярэшкі» не мае ўяўлення, зазначым, што абрад гэты ў сваёй аснове як бы інсцэніруе жаніцьбу. Перад пачаткам гульні яе ўдзельнікі выбіраюць са старэйшых «маці» і «бацьку». Тыя ж пачынаюць аб'ядноўваць хлопцаў і дзяўчат у пары, каб «жаніць» іх. Усё гэта суправаджаецца вясёлай мітуснёй, танцамі. Дзяўчаты па чарзе ўцякаюць ад сваіх «жаніхоў», бягуць уздоўж выстраеных пар, а хлопцы даганяюць іх.

Як сведчыць Л. Салавей, гэтае ігрышча «давала выключную магчымасць ад душы павесяліцца, пажартаваць, вылучыць з усіх свайго сардэчнага абранніка і выказаць сваю схільнасць да яго, урэшце, нават вырашыць свой жыццёвы лёс — знайсці спадарожніка на ўсё жыццё». Аказваецца, гэтае ігрышча, якое сваімі вытокамі пачынаецца ў глыбокай даўніне, дайшло да пачатку дваццатага стагоддзя і было заменена звычайнымі вечарамі-танцамі. Аднак «Жаніцьба Цярэшкі» не знікла бясследна: гэтыя ігрышчы «наладжваліся яшчэ ў 60-х гадах нашага стагоддзя ў раёнах свайго найбольшага пашырэння — Лепельскім, Докшыцкім, Полацкім, Шаркоўшчынскім і інш.»

З кнігі можна даведацца і пра паходжанне самой назвы абраду, і пра яго багатую гісторыю, і пра адметнасці правядзення ў розных месцах. Ды ўсё гэта, так сказаць, матэрыялы даследчыцкага плана. Асноўнае ж месца ў томе займаюць публікацыі запісаў, зробленых збіральнікамі фальклору ў розны час. Выкарыстаны матэрыялы з архіва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, часткова — Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Віцебскага педагагічнага інстытута. Ды і сама Л. Салавей з І. Назінай арганізавалі дзве экспедыцыі па выяўленні і зборы «Цярэшак».

Багата прадстаўлены ў кнізе этнаграфічныя апісанні абраду, прыводзяцца шматлікія тэксты песень, што выконваліся пры падборы пар. Далей змешчаны песні, якія гучалі, «калі «пажэненыя» ловяць адзін аднаго». І, нарэшце, мелодыі, што спяваліся за сталом, а далей ідзе адпаведны нотны матэрыял...

Каляды хутка... Таму і з'яўленне кнігі «Жаніцьба Цярэшкі» своечасовае. Няхай хоць на самадзейную сцэну вернецца з небыцця гэтае цудоўнае народнае ігрышча.

**А. М.**

помніў з жыцця-быцця простага люду і зразумеў гэты парыў вясковай кабеты, але не ацанілі яго мясцовыя начальнічкі: Цалагузіха была недасягальнаю для іх кіраўнічай помслівасці, але затое блізка знаходзіўся начальнік раённай міліцыі, які і быў урэшце пакараны. У свеце, дзе ўсё навыварат, такіх з'яў безліч, і В. Гардзей з сумнай усмешкай паказвае чытачу то на адну, то на другую з гэтых з'яў, з якіх яшчэ нядаўна, па сутнасці, і складалася наша штодзённае існаванне ў камуністычным паноптыкуме.

Жыццё дае шмат падстаў для таго, каб услодыч пасмяяцца, але гэты смех часцей за ўсё скрозь слёзы. І трапятанне Цалагузіхі, каб нейк утрымаць свой варты жалю побыт на ўзроўні прыстойнасці і людскасці, і вечная пакута былога настаўніка і цяперашняга качагара Веніяміна Рапейкі, што страціў сям'ю і цікавую працу ў школе, і нават беды былога загадчыка райфа Шурыка, які страціў цёплае месца з-за сваіх няўдалых амурных паходжанняў, выклікаюць не толькі ўсмешку, але і звычайнае шкадаванне да тых з нас, хто занядбаў у сабе, паводле слоў Я. Купалы, «чалавечае званне сваё», «прадаў на глум і годным, і нягодным усё, што ёсць святым для нас і ў нас». Чытаючы аповесць В. Гардзея «Уратуй ад нячыстага», міжволі задумваешся над усё тымі ж пакутлівымі сённяшнімі пытаннямі: куды мы ідзём? куды забрылі? куды нас вядзе наша доля? ці так жывём? на каго і на што варта спадзявацца? А на цяперашні момант гэта не так ужо і мала, каб сказаць, што пісьменнік нездарма пакутаваў над паперай, узнаўляючы малюнкі нядаўняга мінулага. А болей? На гэта ўжо існуе класічны адказ: «Што ж там болей жадаць ад песняра?!»

**Міхась ТЫЧЫНА**

Новыя кнігі

# ВЯРТАННЕ ТРАДЫЦЫІ

Як ведаюць тыя, хто цікавіцца мінуўшчынай і, у прыватнасці, гісторыяй горада Мінска /Менска/, у канцы мінулага — пачатку нашага стагоддзя выходзілі спецыяльныя інфармацыйна-даведачныя зборнікі пра жыццё горада і яго ваколіц. Так, у 1889 годзе пабачыла свет «Справочная книга и спутник по Минской губернии», у 1904-ым — «Справочный адресный указатель с планом Минска и календарем на 1904 год», а ў 1909-ым — «Памятная книжка Минской губернии на 1910 год». У 1911 годзе з'явіўся даведнік «Весь Минск».

Яго і вырашыла адрадзіць выдавецтва «Беларусь» — нядаўна выйшаў новы «Увесь Мінск» /складальнікі А. Вячорка, К. Гарэлік, В. Дубоўскі, Г. Урбан, В. Кудзінава/. На гэтую акалічнасць указваецца і ў прадмове: «выпускам гэтага даведачна-інфармацыйнага выдання зроблена першая спроба адрадзіць гісторыка-культурную традыцыю пачатку нашага стагоддзя, якая, на жаль, з гадамі аказалася занядбанай і страчанай, здавалася, назаўсёды».

У даведніку прадстаўлены наступныя раздзелы: «Гісторыя», «Эканоміка», «Культура», «Тэлефоны», «Адрасы», «Карты горада», «Транспарт», «Рэклама». Як бачна, могуць быць задаволены і густы тых, хто хоча атрымаць вычарпальную інфармацыю пра жыццё горада /у самых розных яго аспектах/, і тых, каго болей цікавіць слаўнае мінулае, а таксама цяперашнія будні.

Ім, думаецца, прыйдуцца даспадобы артыкулы Максіма Гілевіча «Мы — мінчукі...», Анатоля Цітова «Сімвал незалежнасці», Алега Дзярновіча «Менск: Горад і Час», а таксама разгорнуты аналіз «Наш горад: праблемы і першаасновы развіцця».

Не лішне нагадаць, што тэксты пададзены па-беларуску, а адрасна-тэлефонная інфармацыя — па-руску. Наклад — 50 тысяч экземпляраў.

**Н. К.**

Часопісы ў верасні

# ЯК НАМ БЕЗ ЗГОДЫ

Ведаеце, чаго самы вялікі дэфіцыт на сённяшні дзень у нашай маладой суверэннай дзяржаве? Ды звычайнай згоды і паразумення. Дзякаваць Богу, пакуль не дайшло да ўзброеных канфліктаў, як у так званых гарачых кропках СНД, аднак сварыцца ўжо і мы ўмеем. Дэмакраты клянуць камуністаў, камуністы — дэмакратаў, прадстаўнікі адной нацыянальнасці шукаюць ворагаў сярод носьбітаў другой...

А здаўна ж на беларускай зямлі розныя народы жылі ў згодзе, дружна. Дык, можа, возьмем прыклад з продкаў, павучымся ў іх паважаць адзін аднаго? Падказвае зрабіць гэты крок сваімі матэрыяламі, змешчанымі ў верасьнёўскім нумары, часопіс «Беларусь». У рэспубліцы жывуць прадстаўнікі больш за сто нацыянальнасцяў. Рэдакцыя вырашыла арганізаваць серыю публікацый «Суайчыннікі». Першы расказ — пра татараў. Нагода для гэтага — важкая: набліжаецца 600-годдзе асадніцтва татараў на Беларусі. Чытачам прапануецца інтэрв'ю з прэзідэнтам згуртавання татараў-мусульман «Аль-Кітаб» Абу-Бякір Шабановічам, іншыя матэрыялы пра жыццё і побыт гэтага народа.

І калі ўжо гаворка зайшла пра публіцыстыку, дык згадаю «ўспаміны былога партапаратчыка» /аўтарскае вызначэнне жанру/ М. Парахневіча «У галоўным ідэалагічным штабе» /іх апублікавала «Маладосць»/. Аўтар сем гадоў працаваў інструктарам аддзела прапаганды і агітацыі ЦК Кампартыі Беларусі, расказаць яму ёсць пра што. Будзем справядлівымі, ёсць цікавыя назіранні, абагульненні. Разам з тым /гаворка ўжо не толькі пра ўспаміны М. Парахневіча/ хацелася б, каб аўтары падобных мемуараў былі больш самакрытычнымі. А публікацый такіх з кожным днём большае. І вось што характэрнае: каго ні прачытаеш, дык — чысцейшы анёл. Аказваецца, і за беларускасць змагаўся, і супраць камандна-адміністрацыйнай сістэмы выступаў. Адно незразумела: адкуль, у такім разе, усе тыя беды, што на нас абрынуліся? Хацелася б, каб у згаданых публікацыях было менш суб'ектыўнасці. Меней трэба апраўдвацца, а часцей прызнаваць простую ісціну, што ўсё рабілася ўсімі разам, асабліва, калі яны знаходзіліся ў кіруючым апараце. Разам неабходна і руплівасць, каб ва ўласным дзяржаўным доме ў рэшце рэшт навесці парадак.

Па даўняй традыцыі М. Танк у верасьнёўскім нумары «Полымя» выступае з новымі вершамі. Прыбаўляецца ў Яўгена Іванавіча гадоў, але прыбаўляецца і ў яго творах і мудрасці. Не кожная нацыя можа сказаць, што ў яе сёння ёсць такі ПАЭТ. Не мною сказана — еўрапейскага маштабу. І ў новай нізцы паэзія М. Танка не растраціла сваіх лепшых якасцяў, набыўшы, бадай, яшчэ большай жыццёвай развалжлівасці. Праўда, цяпер асэнсаванне таго, што дзеецца, набывае і трывожныя ноты. Ці туды мы ідзём? Ці так жывём, як тое дэкляруем? Ці не збочваем з дарогі, што ў каторы ўжо раз падаецца адзіна правільнай, а таму надзіва прамой і праўдзівай?

**Не вязе мне, спадары, прызнацца:**
**Паспяшаў калісьці нарадзіцца,**
**Не навучыўся бізнесам займацца**
**І не ўцёк у свой час за граніцу.**

**Сёння мо хадзіў бы ў патрыётах,**
**Геніяльных бардах-адраджэнцах**
**І ніякіх бы не знаў турботаў,**
**І ніякай арытміі сэрца.**

**А то ўпрогся ратаваць Еўропу**
**Ад няволі, цемрашальства, злобы...**
**Дзесьці спяць мае сябры ў акопах.**
**Дай і мне, Бог, легчы з імі побач.**

А ўсё ж — чаго болей у гэтых радках? Трывогі ці болю? Найперш, канечне, паэзіі, а калі глядзець шырэй, дык — права мець уласны голас, сваю думку, асабістае меркаванне пра тыя ці іншыя падзеі, якія адбываюцца сёння. А яшчэ — што таксама немалаважна — смеласць гаварыць уголас, што на душы і сэрцы. Як не дзіўна, а смеласць патрабуецца, бо ў грамадстве, у якім быццам усе выступаюць за дэмакратыю, чамусьці вельмі ж пачынаюць не любіць тых, хто думае інакш, чым пераважная большасць.

Глыбокім роздумам прасякнута і палымянская падборка С. Грахоўскага. Чамусьці пачынае лічыцца ўжо ці не перажыткам — не капіталізму, а таталітарнай сістэмы — своечасова нагадаць, што ў чалавека юбілей. Таму часопіс і не сказаў чытачам, што ў верасні Сяргей Іванавіч акурат адзначыў сваё 80-годдзе. Але юбілей С. Грахоўскі сустрэў, так сказаць, па-рабочаму, правільней — па-творчы. У тым ліку і палымянскай нізкай, у якой — роздум пра дзень сённяшні:

**Не ведаю, куды і як ісці:**
**За небасхілам — дым і шал крывавы,**
**І дзеці ўжо не мараць аб жыцці,**
**Аб подзвігах, аб гонары і славе.**

Трывога паглыбляецца, узмацняецца: «Падмурак крышыцца, гайдаецца, дрыжыць», «Зноў здані патаемныя ілгуць з мемарыялаў, помнікаў, партрэтаў, іх паслядоўнікі надзейна берагуць для «найвышэйшых», ім вядомых мэтаў».

У гэтым жа духу і завяршэнне твора:

**Трывога за трывогаю расце,**
**А «далікатны» артадокс люцее,**
**І толькі не ўдаецца жыць прасцей,**
**Калі усё навокал вар'яцее.**

Васіль, герой аповесці І. Навуменкі «Падлетак», таксама апублікаванай у «Полымі», — прадстаўнік даваеннага пакалення. Падзеі ў творы адбываюцца перад самай вайной. Герой вучыцца ў сёмым класе, пакрысе адкрывае для сябе складанасць жыцця. Манера пісьма І. Навуменкі запаволена-засяроджаная. Гэтым дасягаецца даверлівасць інтанацый, яшчэ лепей раскрываецца характар падлетка. Васіль жыве не ў нейкім ізаляваным свеце, таму ён паступова даведваецца, што многае адбываецца ў жыцці зусім не так, як падае гэта афіцыйная прапаганда. Местачкоўцы задумваюцца і над падзеямі, якія адбываюцца далёка ад іх: «На свеце трывожна. У Іспаніі перамог генерал Франко. Ягоныя войскі авалодалі Мадрыдам. І ўсё больш нахабна паводзіць сябе Гітлер. Мала яму Аўстрыі. Дык яшчэ адарваў частку Чэхаславакіі, а затым і ўсю праглынуў. Апетыт яшчэ, аднак, не задаволіў. Цяпер фашысцкі фюрэр нацэліўся на Польшчу».

А што ўжо казаць пра самога Васіля? Яго душа проста-такі прагне дзейнасці, яму да ўсяго хочацца дайсці самому, на ўсе складаныя пытанні знайсці адказ. Пісьменніку ўдаецца псіхалагічна абгрунтаваць зрухі, што адбываюцца ў характары і паводзінах падлетка. Праўдзівасць, пераканаўчасць дасягаюцца яшчэ і таму, што ў згаданым героі ёсць і пэўныя моманты з жыцця самога аўтара.

Заканчваецца аповесць ваеннымі днямі. Столькі няпэўнасці наперадзе! Васіль з сябрамі пакідае мястэчка. Што адбудзецца з імі далей, відаць, І. Навуменка раскажа ў сваім чарговым творы. Хаця пра ўласнае пакаленне ён паведаў ужо праўдзіва і ў зборніку «Таполі юнацтва», і ў сваіх раманах. Ды хіба перажытае можа ўмясціцца ў іх?!

Двума апавяданнямі — «Дом іхняе мары» і «Дзевяць месяцаў, дзевяць дзён» — прадстаўлена ў «Полымі» Г. Багданава. Па сутнасці перад намі дзве невялікія аповесці з жыцця нашых сучаснікаў, найперш сучасніц. Дарэчы, Г. Багданава ці не паслядоўней з усіх нашых жанчын-пісьменніц маладзейшага пакалення так пільна прыглядаецца да таго, як жывуць тыя, каго не так даўно лічылі... роўнымі з мужчынамі. Г. Багданавай удаецца дасягнуць пераканаўчасці тады, калі яна менш давяраецца творчай фантазіі, а, так бы мовіць, піша з натуры. Тады вобразы, абмаляваныя ёю, прываблiваюць свежасцю пачуццяў і перажыванняў.

Барыс Сачанка ў «Полымі» выступае з дзённікавымі запісамі «Восень у Парыжы». Разумеючы, што, як кажуць, немагчыма ахапіць неахопнае, у самым пачатку матэрыялу ён прызнаецца: «Каб напісаць што-небудзь пра Парыж, трэба ў ім пажыць. І пажадана не адзін месяц. А яшчэ лепш — не адзін год. У мяне, маім распараджэнні, было ўсяго 27 дзён...» Успрымем гэта не толькі як аксіёму, але і як... звычайную аўтарскую сціпласць, бо Б. Сачанку ўсё ж удалося расказаць і пра тое, чаго ў іншых матэрыялах не прачытаеш. Хоць бы пра тое, як ставяцца там да беларусаў, як ЮНЕСКА /а Б. Сачанка выязджаў у Парыж як член беларускай дэлегацыі на Генеральнай сесіі гэтай міжнароднай арганізацыі па пытаннях адукацыі, навукі і культуры/ прапагандуе нашу літаратуру, мастацтва. Нарэшце, прываблiваюць старонкі, прысвечаныя Б. Забораву, мастаку, які калісьці пакінуў Беларусь.

Не лішне будзе чытачам, неабыякавым да гісторыі нацыянальнай культуры, пазнаёміцца з артыкулам А. Лойкі «У полымі неспалымнелы», прымеркаваным да 400-годдзя з дня смерці С. Буднага. Аўтар шмат у чым па-новаму асэнсоўвае шлях, пройдзены славутым асветнікам. Тут жа — артыкул В. Івашына «У пошуках красы і гармоніі» /пра творчасць М. Багдановіча/. В. Макарэвіч /«Узыходжанне»/ дзеліцца ўражаннямі пра творчасць Н. Гілевіча, Л. Тарасюк /«Пачатак шляху»/ робіць яшчэ адзін падступ да асэнсавання загадкі П. Багрыма.

У «Нёмане» — пераклады вершаў М. Стральцова, В. Аксак, С. Панізніка, рамана Г. Далідовіча «Заходнікі». З публіцыстыкі ж хацелася б вылучыць артыкул Р. Гарэцкага, А. Кудзельскага, Я. Пятраева «Асцярожна з АЭС!».

**М. АНДРЭЕНКА**

Анонс

# ЗАПРАШАЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА

Лістападаўская афіша багата на мерапрыемствы. **4 лістапада** мяркуецца правесці вечарыну-роздум пра «Дзядоўскіх душаў чуйны космас» паводле кнігі А. Хатэнкі «Зніч крыжовых дарог», выпушчаную нядаўна выдавецтвам «Полымя».

**9 лістапада** збіраюцца прыхільнікі таленту Н. Мацяш — «Паміж усмешкай і слязой».

Творчы вечар В. Адамчыка пройдзе **11 лістапада** пад назвай «Эпічны жывапіс народнага жыцця».

Прэм'ера кнігі У. Ліпскага «Вясёлая азбука», якая пабачыла свет у выдавецтве «Юнацтва», чакаецца **16 лістапада**.

На вечары «Мужная і журлівая муза» /**19 лістапада**/ прадстаўляецца магчымасць перагарнуць старонкі жыцця Я. Янішчыц, дакрануцца да неўміручага свету яе паэзіі.

А **23 лістапада** адбудзецца прэм'ера кнігі літаратурных пародый М. Скоблы «Розгі ў розніцу». Выйшла яна на перыферыі, у Слоніме.

**25 лістапада** збіраецца гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных класаў і школ горада Мінска ў сувязі са сваім пяцігоддзем.

Споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння пісьменніка, чалавека, можна сказаць, легендарнага лёсу П. Пестрака. Гэтай даце прысвечана вечарына, яна адбудзецца **30 лістапада.**

*Згаданыя мерапрыемствы пачынаюцца ў **18 гадзін 30 мінут**, за выключэннем прэм'еры кнігі У. Ліпскага, якая адрасуецца і дзеткам, таму намечана на **15 гадзін**.*

18 лістапада ў **15 гадзін** збіраецца секцыя паэзіі. Пройдзе яна пад назвай «Адвечны водгук праўды, волі...» і прысвячаецца 70-годдзю выхаду ў свет паэмы Я. Коласа «Новая зямля».

У гэты ж час, толькі **25 лістапада,** пасяджэнне секцыі перакладу.

Віншуем!

# ЯЎГЕНІІ ПФЛЯЎМБАЎМ — 85

*Старэйшыне беларускай паэзіі Яўгеніі Пфляўмбаўм 1 лістапада спаўняецца 85 гадоў. Віншуючы Яўгенію Эдгардаўну са слаўным юбілеем, жадаем ёй яшчэ доўгіх год жыцця, поспехаў на паэтычнай ніве!*



# ДЗЕ Б НІ БЫЎ — ВЯРТАЙСЯ Ў ДОМ...

## МІМАХОДЗЬ...

Так. Гнеў раджае літасць
І нерушы дабра.
А светам правіць Vita —
Расквітная пара.

## БЕЗ АДКАЗУ

Суразмоўнік маўклівы,
Мне так лёгка з табой,
Я хачу, каб шчаслівa
Ты свой вытрымаў бой.

Адхіснулася шчырасць
Ад сумлення цаны:
Ты маўчыш так настырна,
Каб пазбыцца маны?

Суразмоўнік маўклівы,
Ты хоць слоўка скажы:
Ці шумелі прылівам
Тваіх вёснаў дажджы?

Ці сплывалі за імі
Твае зоры ўначы...
Ды ўсё міма ды міма
Рук маіх на плячы...

## МЫ ПІШАМ

Ратуючы свой ветразь ад мялін,
Ад зноў нераспраменена неба,
Мы пішам, як будуем караблі,
Як руні даглядаем дзеля хлеба.

І слова, як падкова на дзвярах,
Што дом твой вызваляе ад маркоты,
Што ніштычыць, узгараючыся, страх,
Што выкіроўвае на ўзлёты.

Мы пішам, падуладныя начы,
Імгненню, што скараецца імкненню,
І нам ужо нікуды не ўцячы —
Нявольніцтва яно ці вызваленне.

І смешна, калі ў вершах гамана:
Ці трэба, ці не трэба слава.
Мы пішам, каб устояла сцяна
У сэрцавай павіннасці дзяржаве.

## ДОЖДЖ ПАД ТАПОЛЯЮ

Павольнае змярканне,
Як ростань пад заслону,
Таполі дрогкай крона
Узрушана дыханнем.

А цёплы дождж з нябёсаў,
З гаркотаю лістоты,
Я вып'ю ўсёй істотай
За горыч нашых лёсаў.

## ЯК ЖЫВЕЦЦА?

Як жывецца? — пытаюць
Несябры і сябры,
Іх партрэты гартаю,
Нібы сцежкі ў бары.

Пойдзеш проста па сонцы,
Напрасткі у імхі,
Ды пры кожнай сасонцы
Назаляюць сукі.

Абмінаючы хцівасць
І задушны гушчар,
Я трапляю у звівы
Зманных сцежак — начар.

Як жывецца? — пытаюць
Несябры і сябры —
Сонца ўрэшце вяртае
Накірунак стары.

І, выходзячы з бору,
Дзе гукалі яны,
Чую ладную змору
З гушчыны і маны.



•

*Я человек, как бог, я обречен*
*Познать тоску всех стран*
*и всех времен.*
*І. БУНІН*

І мне тая туга
Жыццём наканавана,
Як хвалям набягаць
На берагі Нірваны.

Я чалавек,
Асуджаны, як Бог,
Спазнаць тугу
З усіх зямных дарог.

•

Vita! — жвавей, без упыну,
Біся, сэрца, працятае болем!
З маёй бітвы твой бой запаволен —
Ці не блізка панадны прыпынак?

Не шукай для пакуты прычыну!
Біся з ганьбай, з няславай і славай.
Хай душа непахіснай дзяржавай
Не хіснецца і скрутнай часінай.

•

Вакол тайга...
А ў весні час
Там зацвіце чаромха,
Найлепшая з усіх акрас,
З парфумаю у гронках.

З тых гронак ягада расце
І спеліцца пад сонцам,
Ласунак лепшы для дзяцей
Па даўняй завядзёнцы.

Чаромху сушаць і таўкуць,
А чорныя зярняты
Сямейка меле на муку
На будні дзень і к святу.

Я помню тыя пірагі
І смак іх непазбытны —
Пяклі іх маці — не багі,
Каб паспытаў нясыты.

І помню мілых тых жанчын,
Што добра разумелі,
Як, па сіблагах жывучы,
Настаўніцы марнелі.

За абавязак мелі свой
Пірог прынесці ў школу,
І наш нахмураны пакой
Тады глядзеў вясёла.

## ДЗІЦЯ

Трэцяй ці першай ступені апёк —
Сэрца гарыць, як у полымі сінім,
Што падымаецца аж да аблок —
Хто ў гэтым вінен і хто не павінен.

Толькі дзіцячых вачэй зіхатня
Годзіць жыццё з небыццём і нямотай
Толькі ягоныя ночкі не сняць
Ні ашуканства, ні здрады, ні квоты.

Гэта малая істота — узор:
Чым мусіш быць ты, ліхі чалавеча,
Зорны твой век, ці пазбаўлены зор,
Сэрца сваё ўратуй ад галечы.

Толькі дзіця — гэта сплаў пачуцця —
Ласкі, лагоды, бяззбройнай усмешкі,
Толькі яно — спадзяванняў працяг —
Матчына песня пад роднаю стрэшкай.

•

Загон задзірванелай праўды
Капай рыдлёўкай тугі —
А можа, спраўдзіш, можа, спраўдзіш,
Чаго не ўздужалі багі.

Твая работа не для квоты
І не для змушаных падзяк,
А для душы, для той істоты,
Што жыць не хоча абы-як.

І маладзее, і люцее
На схіле, на падліку дзён,
Звініць званок астатняй дзеі,
А ёй нібыта не чуцён.

Зноў ранак, крочачы на ганак
З кашом суніц, збанком чарніц,
Як і даўней, не дасць іх танна,
Хіба за золата зарніц.

А іх жа трэба ў сэрцы выткаць
Па крывяноснай той канве,
Дзе шчасця кволенькую нітку
Сутонне дзён зубамі рве.

•

Дзе ты, бура мая, начавала сягоння,
Дзе збірала зацятасць і злосць, і навалу?
Зноўку ты мяне з хаты
у непрамач гоніш,
А сама ты яе хоць калі каштавала?

Дзень пры дні адвячоркам,
пад сонцавы засціл,
Б'еш і б'еш у саменькае
сэрца раз-пораз,
Гэта ты, мая ўцеха, гэта ты, маё шчасце,
Гэта ты, маё горкае-горкае гора!

Аддаю ўсё, што маю, —
радкі не з падказкі,
І душу на дадатак, калі ёсць патрэба.
За адзінае слова спагады і ласкі,
За драбок літасцівага чорнага хлеба.

•

Сама сабе надакучаю
Гаркотай, крыўдаю, адчаем,
Што зараз называюць стрэсам:
Калі душа ляжыць пад прэсам,
Яе даводзяць да кандыцый,
Каб ёй ні з чым благім не біцца,
Стаць роўнай роўнаддзю, пустыняй,
Што не ўзгадуе краскі сіняй,
Не адаб'ецца ў зірку родным
Спрадвечнай любасцю нязводнай.

Сухі пясок перабіраю,
А час увішна падсыпае:
У пустыці ладзяцца барханы.
Ці быў калі ў цябе каханы?
Пытаеш смешна, не дарэчы:
Абодвум лёс нам ціснe плечы.

•

Гартаю дні ў той летавай красе
І ў цішыні, і ў шуме ветравею,
Калі душа цішэе пакрысе
У прадчуванні фінішавай дзеі.

Часамі дзень барвовы на зямлі
Ад воблачка у неўспагаднай далі
Азорыць яблык ранні на галлі,
І сэрца зойдзецца ад жалю.

•

Думка прыходзіць сама,
Нібы нязваная люба ць,
Што яна кліча — прымай.
Хоць выслаўляецца груба.

•

Я не хачу уваскрашаць
Свайго былога існавання,
Каб зноўку плакала душа
Па дарагім юнацкім стане.

## ПЕРАД НАВАЛЬНІЦАЙ

Пагруквае неба, як сварыцца, нібы, —
Са мною, з людзьмі, з наваколлем,
І слухае кожны з уласнай сядзібы,
І з лесу, і з рэчкі, і з поля.
Так спее навала, што хмарамі стала,
Абложнай заслонай ад сонца,
І людзі шукаюць сінечы кавалак
З небеснага донца.
Сусвет дамагаецца людскае долі
Для ўсіх, нават тых прайдзісветаў,
Што, волю займеўшы, знішчаюць паволі
Бацькоўскія запаветы.

## ДЗЕ Ж ТЫ, БРАТАЧКА РАДОК

Дзень без верша, як сляпы
Вобмацкам у тлуме вуліц,
Абмінае ён слупы,
А яны якраз і туляць.

Белы голуб не відзён,
Не зардзелася заранка,
Толькі сон, дрымотны сон,
За сутонлівай фіранкай.

Дзе ж ты, братачка радок,
Ці ты снегам зацярушаны,
Ці хіснуўся недзе ўбок
Ад мае ліхой уструшні?

Дзе б ні быў — вяртайся ў дом,
Не высокі, дый не нізкі.
Не кідай яго на злом,
Бо ўжо ростань наша блізка.

Проза

Мікола СЕРДЗЮКОЎ

# КАНЕЦ ЭПОХІ

АПАВЯДАННЕ

ШАФЁР уключыў радыё, яно загаварыла, затрашчала на ўвесь аўтобус, і пасажыры даведаліся: у Маскве ўжо танкі страляюць. Потым голас дыктара заглушыла невясёлая музыка.

Аўтобус быў невялікі, пасажыраў назбіралася няшмат: старая ў чорнай фуфайцы і чорна-карычневай насунутай на лоб хустцы, два хлопцы-пэтэвушнікі з дурнаватымі пасля выхадных вачамі — хлопцы, відаць, загуляліся недзе і спазніліся ў вучылішча на вучобу. Цяпер яны рэзаліся ў карты. Ехалі яшчэ чатыры мужчыны сярэдняга ўзросту і, калі па вясковай мерцы, інтэлігентнага выгляду: у куртках на паралоне, у капелюшах і з партфелямі.

На задніх сядзеннях стаяла чырвоная труна з забітым ужо цвікамі вечкам, але не надта цяжкая — яна прыкметна падскоквала, калі аўтобусныя колы траплялі на якую выбоіну. Побач з труной сядзеў стары — Васіль Карачэп. Худы, нават высахлы, маўклівы.

Адзін з «інтэлігентаў» кіўнуў на ўманціраваны ў абшыўку дынамік і сказаў:

— Каб гадоў пяць таму хто прадрок, што ў Маскве ўспыхнуць вулічныя баі... Не знаю... Вар'ятам яго палічыў бы, не інакш... Столькі крыві... Жах...

Другі «інтэлігент» незадаволена сцепануў плячамі.

— Тыя, учарашнія, за час свайго панавання мільёны душ загубілі. Іхні бог - гвалт. І цяпер яны не здолелі адступіцца ад улады мірна.

— А чаму ж дэмакраты дапусцілі? — павысіў голас першы.

Ніхто не адказаў, наогул, гэтыя чацвёра адчужана замоўклі. Адчувалася, што яны не аднадумцы і ацэньваюць барацьбу ў Маскве па-рознаму.

— Гы-гы, ён мне даму... А я тузяку табе ў зубы, цямніла хрэнаў! Каб галава не хісталася...

Пэтэвушнікі зарагаталі.

Аўтобус ужо ўехаў у гарадок. Быў шэры, даволі халодны кастрычніцкі дзень, па пустэльных вуліцах вецер мёў апалае лісце. Блішчэлі яшчэ рэдкія яблыкі на яблынях, на скапаных сотках хадзілі куры, з комінаў нізкіх, як у вёсцы, хат падымаліся дымы, выгіналіся гарбамі над дахамі. Убаку прамільгнуў новы квартал шматпавярховак, але шафёр павярнуў далей ад яго і спыніў аўтобус на прывакзальнай плошчы: двухпавярховы будынак, газетны кіёск, піўны ларок, некалькі аўтобусаў. На лаўках, чакаючы пасадкі ў аўтобусы, сядзела дзесяткі са два людзей, больш пажылых жанчын з кашолкамі. Напэўна, прыязджалі гандляваць на рынак і рана ўправіліся.

— Дзед, выносіць скрыню або як? — спытаў адзін з пэтэвушнікаў.

Васіль Карачэп кіўнуў.

Яны ўносілі труну, яны і вынеслі яе, крыху адцягнуўшы ад аўтобуса і паставіўшы на вольную лаўку. Стары даў хлопцам «лася».

Людзі на прывакзальнай плошчы спачатку пасур'ёзнелі, нейкая жанчына перажагналася набожна, потым усе загаварылі, як гаварылі раней, калі не было тут труны. Адно што тыя, хто яшчэ падыходзіў сюды з гарадка, стараліся прайсці як далей ад яе.

Вёска Дзятлаўка, дзе жыў Васіль Карачэп, была ўсяго за тры кіламетры адсюль, аўтобуснага маршруту туды не было. Без труны ён рушыў бы пешака, як усё жыццё рабіў, але ж цяпер занепакоена азірнуўся. Вянцлаў Малуша, з якім Васіль Карачэп сябраваў, меўся схадзіць да старшыні калгаса і папрасіць грузавік. Ці даў той старшыня? Стары сагнуўся, уцяў галаву ў плечы — вецер налятаў калючы, куслівы, а ягоныя рэбры прыкрывалі толькі сарочка ды пінжак, бо ад'язджаў у Мінск у сонечнае надвор'е і не хацеў цягнуць з сабой лішняга.

Раптам выкаціліся на прывакзальную плошчу калёсы. Гняды рахманы конік з белай мецінай на лобе /Карачэп пазнаў Лысуна/, а побач крочыў, трымаючы лейцы ў руках, сагнуты ў паясніцы радыкулітам дзятлавец Мацей Ясінскі — мажны, чырванатвары і не такі стары яшчэ мужчына, хоць ужо і не маладзён.

Колы грукалі па няроўным асфальце.

Згледзеўшы калёсы і аднавяскоўца, стары ажно ўздрыгнуў. Можа, і ад холаду, бо вецер працінаў да касцей. Але боль у бела-блакітных вочках стаяў не ад холаду.

— Тпру, каб цябе... — рыпуча закамандаваў каню Ясінскі. — Ху-у... Вось па цябе я і прыехаў, Васіль.

Стары адвярнуўся ад яго і зашпіліў верхнія гузікі на сарочцы.

— Ты што нос вернеш? Незадаволены?

Той нічога не адказаў. Аднавясковец занерваваўся:

— Дык так? Вось я зразумеў... Дык так? Думаеш, можа, я сам схацеў? Твой жа сябрук папрасіў. Ну, Вянцлаў. Ён тутака, са мной прыехаў. У магазіне стаіць за гарэлкай. Чарга там, гарэлку даюць. Прыйдзе, дык адразу і ляснем... Га? Ну, давай грузіць будзем, га?

— Адчапіся, — сказаў Карачэп, не паварочваючыся.

— Грэбуеш? Як знаеш. Хазяін-барын. Папросіш яшчэ.

Ён таргануў за лейцы і ад'ехаўся метраў трыццаць — на той бок плошчы, дзе высіўся цёмна-зялёны штыкетнік вакол нейкіх складоў і раслі чэзлыя вербы. Навязаў Лысуна ля адной вярбы і, узяўшы з калёс сумку, пасунуўся назад у горад, мусіць, таксама ў магазін.

З шэрых кужэльных хмарак зрываліся кроплі, вецер гучней зашамацеў пасохлай лістотай і папяровым смеццем, зрэдку закручваючыся ў віхуры і падымаючы пыл. Але дождж не пачаўся.

Васіль Карачэп, калі аднавясковец пайшоў, уздыхнуў з палёгкай, хоць калаціўся ўжо амаль нясцерпна і не мог датумкаць, якое ж знайсці выйсце. Не было выйсця. Старшыня калгаса машыны не даў, Вянцлаў Малуша немаведама колькі прастаіць за гарэлкай... Тут стары заўважыў, што той аўтобус, на якім ён прыехаў, стаіць без людзей, толькі вадзіцель, малады хлопец, пазяхае ды пакурвае ў кабінцы. Пацёгся туды, пабарабаніў чорным пальцам па дзверцы.

— Ну што табе, дзед? — прачыніў іх хлопец.

— Падкінь. Тут хвілін дзесяць-пятнаццаць. Дзятлаўка. Уваж. Ну куды я з труной?

— Не, баця, нічога не выйдзе.

— Прашу. Я добра заплачу.

— Не магу — бензіну няма. Толькі на рэйс.

— Да рэйса ж яшчэ нейкі час, праўда?

— Кажу, Масква бензіну не дае. Не ўпрошвай.

Нехта ззаду паляпаў старога па плячы. Ён павярнуўся: Вянцлаў Малуша. Прозвішча людзі далі яго продкам, відаць, за невялікі рост, акрамя таго, чалавек меў крывыя ногі, лапушыстыя вушы, нос піпкай і вельмі многа ўсмешлівасці, добразычлівасці ў карых вачах. «Ты б, Вянцлаў, у цырку здолеў», — гаварыў за чаркай які мужык. «А што, каб у маладосці хто падказаў...» — не крыўдзіўся, усміхаючыся на ўвесь рот, Малуша.

Ён быў роўня па гадах Ясінскаму, хоць сябраваў з Карачэпам. Цяпер стары глянуў на яго незадаволена, нават злосна, і Малуша хутчэй, нібыта абараняючыся, падняў пад самыя грудзі сетку, у якой Карачэп убачыў ажно тры бутэлькі гарэлкі, бохан хлеба, кільку ў таматным соусе і рог вытыркнутай з цёмнай паперы амаль белай ліվернай каўбасы.

— Во, усё ёсць! Жывём! — сказаў Вянцлаў Малуша даволі высокім, нібы ў юнака, голасам. — Без чаргі пралез.

— Навошта ты Ясінскага прыцягнуў? — захрыпеў Карачэп. — Мазгоў няма? Трэба трохі ўжо кумекаць... Знайшоў каго прыцягнуць.

Васіль Карачэп пакрочыў ад аўтобуса да труны, нетаропка перастаўляючы сухія ногі-жэрдкі. Вянцлаў, трохі блытаючыся ў нагах, кінуўся з сеткай за ім.

— Гэй, прадай бутэльку! — крыкнуў услед яму вадзіцель, напраўду цяпер дужа шкадуючы, што Масква не дае бензіну.

Вянцлаў не адказаў: глупства, хто ж гэта просіць пра такое? Ён апраўдваўся перад сябрам:

— Не даў старшыня машыны. Што мне было рабіць? Не даў, бо і ў нас у калгасе няма гаручкі. Масква... Ты ж ведаеш, што цяпер у Маскве. І наогул, мы цяпер асабняком ад яе, за ўсё трэба плаціць. Дарагі бензін.

Зноў пачалі зрывацца з хмар халодныя буйныя кроплі, вецер, круцячыся, кінуў у вочы дзятлаўцам пыл. Маладзейшы ажно закашляў, а стары сутаргава зашпіліў гузікі на сваім вынашаным сінім пінжаку.

— Давай па каліве, — прапанаваў Вянцлаў, ставячы сетку каля труны пад лаўку. — У мяне і шклянка ёсць. Га? А то я хоць у балонні, ты ж зусім застудішся. Адкаркаваць, Васіль?

— Ну, хіба па каліве...

Ён азірнуўся наўкол.

На прывакзальнай плошчы і аўтобусаў, і пасажыраў было яшчэ менш, як тады, калі стары толькі прыехаў — паадпраўляліся каторыя аўтобусы. Іншага разу з-за будынка вакзала вытыркаўся які мужчына, але тут жа, бачачы, што піўны ларок зачынены, паварочваў назад. Але азірнуцца, каб не нарваўся міліцыянер, увайшло ўжо ў звычку кожнага мужчыны, без гэтага сто грам не вып'еш.

Зубамі сарваў Вянцлаў з бутэлькі «бесказырку», наліў у шклянку амаль да паловы.



— Трымай...

Вянцлаў пакасіўся на труну — на ёй было б вельмі зручна раскласціся — і, матлянуўшы галавой, паставіў бутэльку на зямлю між ног, заціснуў чаравікамі, потым адарваў, не вымаючы з сеткі, рог ліверкі, а хлеб выцягнуў, адламаў ад бохана два кавалкі.

Калі абодва выпілі-хукнулі і крыху прыкусілі, Вянцлаў спытаў:

— Дык як там, у Мінску? Можа, страляюць, як у Маскве?

— Усё спакойна.

— А Курапаты?

— Звычайна. Лясок такі. Узгорак, лагчынка. Больш сасонак. Ямкі відаць, у якіх каты людзей закопвалі, — зямля ж з цягам часу прасела. Вялікі крыж на тым месцы стаіць, дзе помнік будзе.

Па плошчы, амаль пустэльнай ужо, пратэпаў Мацей Ясінскі і не завярнуў да штыкетніка, дзе сонна трос галавой Лысун, а спыніўся блізка да аднавяскоўцаў, каля суседняй лаўкі. У Мацеевай сетцы таксама былі хлеб, ліверка і бутэлькі, толькі не з гарэлкай, а з півам.

— Паклічам Мацея? — спытаў Малуша.

— Ты зноў за сваё?

— А то ты з ім ніколі не піў?

— Піў. Але тады я бацькаву труну не вёз. Ясна? — зноў злосна бліснулі бела-блакітныя вочкі старога.

Вянцлаў наліў яшчэ па кроплі.

— Кажуць, раней там міліцыя вартавала, а цяпер нікога няма, — распавядаў стары. — Я ўзяў вялікі поліэтыленавы мяшок і нагроб з ямкі... Якраз пад сасонкай. Сухая зямля.

— Каб хоць поп згадзіўся адпець, — крутнуў галавой, сумняваючыся, Малуша. — Зямлю адпяваць... Як гэта?.. І ці можна яшчэ на кладах... Дазволіць старшыня сельсавета магілку зрабіць?

— Дужа я таго старшыню пытацца буду... А папа ўгавару. Нельга зямлю адпяваць? А можна, каб у майго бацькі магілкі не было?

З-за спіны старога падаў голас Мацей Ясінскі:

— Каб не я, ты б і не ведаў, Васіль, што яго ў Мінск завезлі.

— То праўда, — падтрымаў Мацея Вянцлаў. — Ён жа праз свайго бацьку даведаўся, што твайго туды? Так? Каб ён не сказаў...

Карачэп хацеў вылаяцца, ды перадумаў. З аднаго боку, камуністы жорстка з людзьмі распраўляліся, а з другога, бацька Мацея Ясінскага як бы нікога і не забіў — толькі памагаў раскулачваць ды арыштоўваць.

Гарэлка ўдарыла ў галаву.

— Хай вып'е з намі, — нібыта скрозь сон данёсся да старога голас Малушы.

І голас Ясінскага:

— А гэтыя няжорсткія? З танкаў б'юць па вокнах таго Вярхоўнага Савета... Добра яшчэ, што мы аддзяліліся. Калі б Беларусь раней была самастойная, то й мой бацька не знюхаўся б з такімі.

Зноў Вянцлаў:

— Дык я запрашу?

Уяўляючы, як танк пад'язджае да хаты гэтага Ясінскага, боўдзіла гэтага, Карачэп прамаўчаў. Не хацеў ён, каб танк таму па вокнах... Калі нават Ясінскі гэты, боўдзіла гэта супраць Ельцына...

Рэшткі гарэлкі — больш паловы шклянкі Вянцлаў наліў Мацею, а сабе адкаркаваў бутэльку Мацеевага піва. Карачэп закурыў. З шэрых хмар нарэшце напраўду лінуў дождж. Касы, халодны. Пінжак на спіне Карачэпа адразу намок. Стары сеў на кукішкі так, каб труна трохі засланяла яму спіну. Успомніў бацькаў твар...

— Не трэба было труну там купляць, — сказаў Вянцлаў. — Навошта? Прывёз бы зямлю, а труну б тут зрабілі. І ніякага клопату не мелі б з перавозкай.

Стары трохі захлынуўся дымам, чмыхнуў і не пагадзіўся:

— Хай усё будзе мінскае. Як яно было б, калі... І не твайго гэта розуму дзела! Ты, Вянцлаў, будзь ласкаў, схадзі на шасейку! Галасуй і прасі. Хто-небудзь падкіне нас.

— Ды хто падкіне?! Гэта ж з шасейкі трэба крук рабіць... Хто падкіне? Ва ўсіх цяпер адна песня: няма гаручкі.

— Ты ідзі. Паслухайся, Вянцлаў...

Той паставіў парожнюю бутэльку ад піва пад лаўку і паслухаўся, пайшоў. Мацей Ясінскі моўчкі пасунуўся да калёс — ад дажджу блішчэла спіна гнядога Лысуна. Карачэп прыпаліў другую папяросу.

*Малюнкі У. СКРЫГАНАВА*




# БУДЗЕ ЎСЁ САМАЕ НОВАЕ

***Восеньская дэкада /3—12 лістапада/ прынясе ў культурнае жыццё рэспублікі яркую падзею — III Міжнародны фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы».***

Гэты фестываль — трэці, які праводзіць Нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне «Беларуская Капэла». Аматары музыкі, безумоўна, помняць папярэднія фестывалі, на якіх гучала музыка беларускай зямлі XII—XIX стст., а таксама канцэрты сёлетніх сакавіцкіх «Беларуска-польскіх музычных сустрэч». А што ж будзе цяпер?

Як вядома, сваю гісторыю капэлы вядуць з XVII ст. Дзякуючы іх намаганням на сцэнах гучала ўсё самае новае. «Учора напісанае — сёння выконваецца»: гэты прынцып быў адным з асноўных у іх дзейнасці. Ён і абумовіў канцэпцыю сёлетняга фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы».

Такім чынам, мэта будучага фэсту — пазнаёміць зацікаўленага слухача з найноўшай музыкай розных краін. Паказаць сваё майстэрства прыедуць выканаўцы з Польшчы, Фінляндыі, Галандыі, Расіі, Ізраіля; фестываль збярэ вялікую колькасць паважаных гасцей. Будуць і кампазітары, чыя музыка прадстаўлена ў фестывальных праграмах.

Тры асобныя вечары — аўтарскія канцэрты — прысвечаны творчасці выдатных Маэстра: кампазітара, піяніста, прэзідэнта Польскай Асацыяцыі сучаснай музыкі прафесара Зыгмунта Краўзэ; кампазітара, прафесара Сібеліус-Акадэміі /Хельсінкі/ Калеві Ахо і аднаго з вядучых сучасных кампазітараў Ізраіля, прафесара Ерусалімскай Акадэміі музыкі імя Рубіна — Марка Капытмана. Аднак уласная творчая дзейнасць — не адзінае рэчышча, у якім раскрываюцца талент і майстэрства гэтых музыкантаў. Ужо тыя рэгаліі, што «атачаюць» іхнія прозвішчы, сведчаць і пра актыўную педагагічную працу кожнага з кампазітараў, якія чытаюць лекцыі па праблемах музычнай культуры і тэхніцы сучаснага кампазітарскага пісьма. Дарэчы, у межах нашага фестывалю пройдзе самастойны тэарэтычны семінар для студэнтаў і маладых кампазітараў Беларусі, дзе выступяць з лекцыямі прафесары З. Краўзэ, К. Ахо і М. Капытман. Тэматыка гэтых выступленняў, своеасаблівых майстар-класаў, — сучасная музычная творчасць краіны, якую прадстаўляе аўтар, а таксама некаторыя пытанні сучаснай тэорыі кампазіцыі.

Сярод гасцей будучага музычнага свята чакаем і расійскіх кампазітараў. Гэта Уладзімір Тарнапольскі, твор якога «Welt voll Irsinn» прагучыць у выкананні калектыву з Галандыі «De Ereprijs»; Віктар Якімоўскі, які прапанаваў на фестываль Санату для фартэпіяна /выконвае беларускі піяніст Алег Крымер/.

Адметная рыса кожнага фестывалю — шматлікія прэм'еры. Вось і наша музычнае свята будзе расквечана першымі выкананнямі. Ансамбль салістаў «Класік-Авангард» прадставіць новыя творы маскоўскіх кампазітараў Яфрэма Падгайца і Фараджа Караева, чыя музыка неаднойчы гучала на прэстыжных фестывалях свету. У канцэрце ансамбля «Класік-Авангард» прагучыць яшчэ адна прэм'ера — твор кампазітара з Ташкента Фелікса Янаў-Яноўскага «Missa Brevis». Меламаны, безумоўна, будуць рады новай сустрэчы з вядомай расійскай спявачкай Наталляй Герасімавай, менавіта для якой аўтар напісаў вакальную партыю.

І яшчэ адна адметнасць. Асацыяцыя сучаснай музыкі Беларусі — дастаткова маладая, але дзейная і перспектыўная кампазітарская суполка. У маі 1992 г. на Варшаўскім Кангрэсе ў час правядзення Міжнароднага фестывалю «Сусветныя дні музыкі-92» Міжнароднае Таварыства сучаснай музыкі ISEM/SIME /Амстэрдам/ прыняло Асацыяцыю ў свае члены. Міжнародны статус БАСМ, яе легітымнасць — яшчэ адна падстава для інтэграцыі Рэспублікі Беларусь у еўрапейскую і сусветную культуру. Арганізатары АСМ Беларусі — кампазітары Алег Сонін, Вячаслаў Кузняцоў, Алег Залётнеў. Сёння ў Асацыяцыі каля 20 членаў /прэзідэнт — А. Сонін/. У дні фестывалю яна прапануе ўвазе слухачоў разгорнутую праграму з твораў Алега Соніна, Віктара Войціка, Аляксандра Ліцвіноўскага, Алега Залётнева, Уладзіміра Дарохіна, Вячаслава Кузняцова. Многае прагучыць упершыню. На фестывалі будуць прадстаўлены таксама творы Яўгена Паплаўскага, кампазітара і дырэктара «Беларускай Капэлы».

Ідэя сёлетняга фестывалю цікавая і тым, што музыка амаль усіх краін-удзельніц прагучыць, так бы мовіць, у «аўтэнтычным» выкананні: польскія музыканты выконваюць польскую музыку, ізраільскі дуэт пазнаёміць з творчасцю ізраільскіх кампазітараў, фінскі квартэт і салісты — з музыкай К. Ахо і г.д. Менавіта таму «Адраджэнне беларускай капэлы» станецца фестывалем самых разнастайных адкрыццяў, у ліку якіх і новыя адметныя выканаўчыя імёны.

Адно з такіх імёнаў — Новае Варшаўскае трыо, ансамбль маладых інструменталістаў-выпускнікоў Музычнай Акадэміі імя Ф. Шапэна. Ідэя, дзеля якой аб'ядналі свае творчыя імкненні гэтыя музыканты, асноўваецца на жаданні прапагандаваць некалі квітнелую, аднак пазней недаацэненую форму фартэпіяннага трыо. Калектыў актыўна гастралюе па сваёй краіне і па свеце, удзельнічае ў конкурсах і фестывалях, адкрываючы слухачам гэты багаты адценнямі музычны жанр.

Дуэт з Ізраіля, магчыма, знаёмы аматарам мастацтва, бо канцэрты яго ўжо ладзіліся ў Мінску. Гэта спявачка Эва Бен-Цві ды піяніст Ілля Райхлін. Адна з вядучых спявачак Ізраіля. Э. Бен-Цві прадстаўляе сваю дзяржаву на многіх міжнародных фестывалях, канцэртах. Дыяпазон яе гастрольных выступленняў шырокі: Германія, Швейцарыя, Італія, Францыя, Польшча, Расія, Беларусь. У рэпертуары спявачкі як старадаўняя, так і сучасная музыка. «Яе голас не падобны да ніводнага іншага, а выкананне сучаснай

# МЫ ДУМАЛІ ПРА ГЭТА ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ГОД...

***Мастак, работы якога калісьці закупляў Мастацкі музей, а дзяржава ўзнагародзіла ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, эмігрант, для нас амаль паўстагоддзе «здраднік» спадар Мікалай Пашкевіч — адзін з тых, хто ўжо становіцца нашай гісторыяй. Яго жонка — Галіна Дакальская — таксама мастачка, выдатны партрэтыст, колішні супрацоўнік «ЛіМа».***

***Іх сустракалі на вакзале як самых дарагіх і чаканых гасцей, сяброў, суайчыннікаў. А пасля ціхенька перадавалі навіну толькі «даверанымі», пабаяўшыся залішняй надакучлівасці: няхай агледзяцца, прызвычаяцца, а ўжо пасля можна і ў госці, і ў майстэрні, і на тэлебачанне...***

Больш за паўстагоддзе іх лічылі здарднікамі і ворагамі. Яны ж жылі і працавалі ў Амерыцы, неслі крыж ізаляванасці, бо што такое мастак без роднай зямлі? Ці эмігрант, назаўсёды пазбаўлены не толькі радзімы, але і надзеі яе пабачыць? Адзін з нашых архітэктараў яшчэ ў застойныя «слабавыязныя» гады ў маленькай крамцы партугальскага гарадка сустрэў чалавека, выпадкова, як і многіх іншых, занесенага сюды вайною, які праз шмат год нарэшце пачуў роднае слова. І першае, што ён здолеў сказаць: «Ці не прывезлі вы з сабою роднай зямелькі, панюхаць?» Ніякія разважанні не перададуць настолькі дакладна і глыбока ўвесь трагізм жыцця гэтых людзей. І словы, сказаныя Мікалаем Пашкевічам — «Я ніколі не мог бы стаць на чужой зямлі значным мастаком», — гэта ўжо вынік, гэта балючая самаацэнка адарванага ад каранёў майстра.

Мы абяднілі сябе яшчэ на двух таленавітых людзей, мастакоў. Мікалай Пашкевіч і Галіна Дакальская. Для многіх — яны старонка ў будучым падручніку, што цалкам магчыма ў наш «зменлівы» час. Для некаторых — іх маладосць, надзеі, думкі, летуценні. Сяргей Грахоўскі, Заір Азгур, Яўген Ціхановіч, сябры, знаёмыя, аднадумцы. Лёс гэтага пакалення быў трагічны, несправядлівы да іх. «Я не пісаў партрэтаў паліцаяў. Я ўвогуле не партрэтыст» — і было зразумела, што для Мікалая Аляксандравіча гэтыя словы не спроба апраўдацца. Высокія дзяржаўныя ўзнагароды да вайны, акупацыйны рэжым і выпадкова выратаванае жыццё падчас адыходу нямецкіх войск, эміграцтва «па неабходнасці» /а колькі такіх жа асела ў Польшчы, Германіі, іншых краінах/ — два гэтыя чалавекі даўно ўжо не крыўдуюць на лёс. Яны ўспрымаюць яго як свой пакутніцкі шлях. Усе гэтыя гады ў выгнанні яны жылі са спадзяваннем і надзеяй, пераасэнсоўваючы жыццё, пераацэньваючы філасофію, адкрываючы праўду. І не нам іх судзіць...



Яны сустракалі мяне ў пакойчыку кватэры-гатэля Дзяржаўнага мастацкага музея. Іх дачка Алія, старшы дызайнер па касцюмах кампаніі Уолта Дыснея, з'ехала ў той дзень на экскурсію — у Маскву. Яна ўжо амерыканка, як гэта натуральна адбываецца з дзецьмі кожнай эміграцкай сям'і. Яе ж бацькі душою на сваёй радзіме. Яны сядзелі насупраць мяне, прыгожыя нейкай своеасаблівай адухоўленасцю твараў, сціплыя ў выказваннях пра свае пакуты і вельмі шчырыя ў адносінах паміж сабою. Яны былі нібы адно цэлае. Калі Галіна Альфонсаўна саступала месца ў гутарцы мужу, маўляў, ён у сям'і філосаф, а Мікалай Аляксандравіч праз кожныя дзесяць хвілін раіўся з ёю. І перадуманае гадамі вылілася ў горкія, шчырыя, але па-мастакоўску прыгожыя словы.

... Лёс чалавеку даецца ад Бога. І мы пад гэтым лёсам прайшлі складанае жыццё і шчаслівыя, што прайшлі яго. Ды і хто дапамог бы нам гэты лёс адбыць, як ні мы самі? Загінула шмат сяброў, мы перажылі неверагодную трагедыю, праўда, аказаліся ў гэтых адносінах больш шчаслівыя, бо былі мастакамі. Мастацтва ствараецца формай, а не зместам, які быў у той час цалкам падпарадкаваны камуністычнай дактрыне. А яна дзейнічала вакол нас і на нас у надзвычай жорсткай форме. Быў павешаны замок на межы. Але гэта азначае самагубства народа. Вы ж не павесіце замок на ідэю. Думка чалавечая праходзіць і ў шчыліны. Вы не затрымаеце яе, як гэтага дамагаўся Сталін. І што ў яго атрымалася? — Замок ідэй, замок сувязяў, замок прагрэсу.

... Не мае значэння, што ў цябе ў кішэні, мае значэнне толькі тое, што ў цябе ў галаве. Важна тваё рэлігійнае пачуццё праўды, усёдаравання. А помста, якая трыумфавала тут у самай неверагоднай форме, таму што не так выказаўся, інакш разважаеш, — жахлівая рэч. Таму так баяліся мы пісаць на радзіму, ведалі, адпомсцяць сястры Галіны — актрысе купалаўскага тэатра Біруце. Не нам абмяркоўваць яе сапраўдныя тэатральныя здольнасці, але гэта страшэнна несправядліва — ускладаць цяжар на плечы ні ў чым не вінаватай жанчыны, якая да таго ж шмат год не бачыла сваю дачку. Гадавалую яе, ад'язджаючы на гастролі, пакінула нам на дачы. І — сустрэлася з ёю праз пяцьдзесят год у Амерыцы... Якое скажэнне чалавечых адносін! Чым пакрыўдзіла лёс тая жанчына? Мы думалі пра гэта амаль шэсцьдзесят год. Мы чакалі смерці Сталіна, і не толькі фізічнай. Смерці ў душах — нашых і вашых.

... Так, бывалі моманты адчаю, калі раптам востра адчуваеш сваю адарванасць ад Беларусі. Там засталіся мае бацькі, там я пайшоў у школу, атрымаў ордэн. У маім выгнанні былі вінаватыя абставіны, што мяне не датычылі і ад мяне не залежалі. Так ужо сталася, што быў я на акупаванай тэрыторыі. Ці ж то мая віна?

Я чытаю газеты, што магу набыць у Амерыцы, выпісваю «Праўду», адзіную, якую можна было выпісаць. Кнігі дасылаюцца сябрамі. Многія чапляюцца яшчэ за старое. Не трэба замыкацца ад людзей. Ніколі не акружалі краіну ворагі. Акружала вольная думка. Акружала грамадства, дзе былі шчырыя людзі, была царква, Біблія, якая ў надзвычай простай, прымітыўнай форме дае нам жыццёвыя прынцыпы, палягчае жыццё.

... Вы кажаце, многія цяпер адракаюцца ад мінулага, ад сваіх поглядаў, сваіх работ. Так, усе мы сталі філосафамі. І ўсё ў нас цяпер чыстае і адкрытае. Але ўявіце сабе маладых людзей, а мне не было тады і трыццаці. Я жыў, як усе, працаваў і не адчуваў цяжару абставін свайго жыцця, прынцыпаў, якім падпарадкоўвалася наша творчасць. Ніхто нават не падазраваў, ні я, ні мой сябар дзяцінства Заір Азгур, ды і ўсе астатнія, што верылі мы ў лжывыя прынцыпы. Я не магу ацэньваць творчасць Азгура, і не толькі таму, што ён мой стары знаёмы, але і таму, што гляджу з далечыні тых гадоў, калі ствараліся яго работы. Можна паспрачацца пра форму ягоных скульптур, пра пластычнае вырашэнне вобразаў. Што ж датычыцца характару самога майстра, запэўніваю, што гэта шчыры чалавек. Але зразумейце, што былі часы, калі не сказаўшы тое, што ад цябе патрабуецца, не атрымаеш не толькі ордэн, але нават і глытка вады. А ад нас патрабавалася вера. Таму і былі мы ўсе ідэалістамі і лічылі камуністычныя прынцыпы лепшымі ў свеце.

... У Амерыку я прыехаў спецыялістам. І гэту спецыяльнасць дала мне наша школа мастацтва. Яна не толькі вядомая, яна наймацнейшая ў свеце і зараз, бо вы здолелі яе захаваць. Магчыма, гэта адбылося ў выніку ізаляванасці краіны, але сам факт захавання і развіцця яе ўражвае і мяне, і маіх замежных сяброў. Без усялякага ведання мовы я заняў месца, досыць прэстыжнае, у архітэктурнай фірме. Мяне цанілі і як мастака, і як архітэктара. Бо ў мяне было і веданне перспектывы, і ўменне праектаваць вялікія комплексы. І гэта дало мне там някепскае жыццё. Ніхто мяне не пытаўся, ці служыў я ў войску, ці рэлігійны або атэіст, якія мае погляды і ідэі. Адно толькі, на што ты здольны як мастак. Менавіта такіх адносін баяліся ў нас найперш. Так і ўзніклі замкі, якія павесілі не толькі на межах, але і на душах чалавечых.

... Ужо ў Амерыцы я ніяк не мог зразумець, як гэта Горкі, такі шчыры чалавек, мог прыдумаць сацыялістычны рэалізм. Гэта ж неверагодна шкодны прынцып. Здаўна здавён існаваў рэалізм, прадрапаны на сценах першабытным чалавекам. Вось вы дадаяце да яго сацыялістычны — адна тэндэнцыя. Але калі вы закрываеце астатнія -ізмы — гэта ўжо насілле. У мастацтве мусяць быць усе варыянты. Я і сам прайшоў іх яшчэ тады, калі ў Віцебску вучыўся ў Малевіча. І цяпер, з вышыні свайго ўзросту, магу сказаць, што ўсялякі дадатак да рэалізму ёсць падман, а дадатак сацыялістычны ёсць дадатак партыйны.

Віншуем!

## ВЯЧАСЛАВУ АДАМЧЫКУ — 60

***1 лістапада спаўняецца 60 гадоў знакамітаму беларускаму пісьменніку, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Вячаславу Адамчыку. Віншуем Вячаслава Уладзіміравіча з днём нараджэння, зычым яму і надалей заставацца ў актыўным жыццёвым і мастакоўскім страі!***

# У ШАРЫМ ЧАСЕ

Каб ацэньваць творчасць пісьменніка, яе трэба не толькі ведаць — яе трэба разумець. Бадай, характэрным паказчыкам разумення мастака з'яўляецца адчуванне яго стылю — стылю духоўнага жыцця эпохі.

На пачатку стагоддзя беларуская адраджэнская культура сутыкнулася з неабходнасцю выкрыць хлусню афіцыёзу — спачатку моднага песімізму, а потым нарматыўнага «пяцёхграшовага», як гаварылі ў свой час сябры аб'яднання «Узвышша», аптымізму. Як першая, так і другая светапоглядныя арыентацыі вядуць да падрыву творчага патэнцыялу асобы. Стыль беларускага адраджэння фарміраваўся ў супрацьстаянні гэтым нігілістычным тэндэнцыям.



Падстаў для прызнання ўлады наканаванага, ці, як гаварыў К. Чорны, вечнасці, беларускае жыццё першай паловы XX стагоддзя дало больш чым дастаткова. «Час адмервае і лічыць вечнасць. А ў ёй — і жыццё наша. Ён гоіць і высякае новыя раны», — такім запевам пачынаецца самы трагічны з вядомай тэтралогіі раман Вячаслава Адамчыка «Голас крыві брата твайго». Цяпер, калі В. Адамчык вядомы чытачу як прызнаны празаік, як драматург, пэўныя абрысы яго стылёвай манеры акрэслены даволі выразна. Праўда, вылучыць самае істотнае ў творчай палітры пісьменніка не так проста: кожнае слова ў яго творах, кожнае сюжэтнае рашэнне пазначана цаной крыві і страт, перажытых беларускім народам у час яго бездзяржаўнага існавання. Праз усе творы пісьменніка праходзіць палемічная непрымірымасць да любога апраўдання крыві. І ўсё ж такі не палеміка з сучаснікамі ці папярэднікамі вызначае адметнасць яго творчай манеры. З першых крокаў у літаратуры В. Адамчык імкнуўся адшукаць такую ёмкую стылёвую формулу, якая магла б адразу даць уяўленне пра жыццё — якое яно было і ёсць і якое яно можа і павінна быць. Яго стыль прапануе чытачу вынікі асэнсавання трагічных калізій эпохі і адначасова запрашае да больш паглыбленага асэнсавання рэальнасці — як правіла, трагічнай:

«Грушку зрэзалі, горка казаць ужо — свае...

Іх, мацеры з бацькам, не стала, як цяпер ужо здаецца, нібы разам, хоць паміралі яны праз два гады: спачатку маці, паляжаўшы з тыдзень у бальніцы і нават даўшы наказ, у што і як яе ўбраць, і перад смерцю, як гэта зрабіла яе маці і бабка, памыўшыся, а праз два гады — бацька, ужо адзінока, седзячы на канапе і не паспеўшы апрануць чыстую бялізну — яна засталася ляжаць горбачкаю на крэсле пры той жа канапе.

Гэта таксама наш беларускі звычай — перад смерцю памыцца і надзець новую сарочку».

У гэтым невялікім урыўку з апавядання «Маладзіковая нядзелька» бачацца не толькі асаблівасці стылю В. Адамчыка — тут вырысоўваецца стыль беларускага жыцця-смерці ў XX стагоддзі.

В. Адамчык адносіцца, бадай, ці не да апошняга пакалення культурных рэкрутаў, якіх яшчэ змагла паставіць у літаратуру абеззямеленая і абяскроўленая беларуская вёска. Гэтае пакаленне ў маленстве не магло спажыць ва ўсёй паўнаце гуманістычныя традыцыі беларускай літаратуры, але яшчэ жыла ў народзе адвечная працавітасць, народная этыка з яе замілаваннем да жыцця.

В. Адамчык падсвядома трапіў у рэчышча нацыянальных традыцый, але іншы шлях для яго проста не існаваў. Творчасць буйных празаікаў папярэдніх дзесяцігоддзяў засярodзіла ўвагу на тым, што ў грамадскім і дзяржаўным жыцці беларускага народа зроблена памылка. Праз галоўную памылку перайначыліся адносіны паміж людзьмі, адхіліліся ад агульначалавечай нормы. Тое, што некалі апявалася як натуральнае права на шчасце, успрымаецца як «брыдкае», «саромнае». Адгэтуль ідуць і нейкія нялюдскія формы самасцвярджэння асобы. Выгнанцы з грамадства з нейкай хваравітай асалодаю перажываюць сваю крыўду. Закон тут дзейнічае аднолькава і ў беларускай вёсцы /«Зоня»/ і ў савецкай ВНУ /«Млечны шлях»/. У такіх выпадках В. Адамчык карыстаўся я-формай — таксама невыпадкова:

«Як хто, а я ў свае трынаццаць год любіў цёмныя, хоць выкалі вока, ночы з бясконцым дажджом і моцным ветрам.

Мяне разбіраў жаль, апаноўвала моцная крыўда, востры боль раставаў у маім сэрцы, расплываўся па ўсім целе лёгкай слабасцю, на вочы набягалі слёзы — і я плакаў. Плакаў ціха, прыглушана, каб не чуў айчым, мама, але — уволю».

Сацыяльна-бытавая сітуацыя ў апавяданні «Па часе», урывак з якога тут прыведзены, не новая ў літаратуры. Новае тут псіхалагічнае напаўненне — інфернальная прывязанасць да свайго болю.

В. Адамчык, такім чынам, з самага пачатку браўся за канфлікты вялікага значэння. Не заўсёды яму ўдавалася іх вырашыць належным чынам. Сёння больш выразна бачыцца ў асобных творах даніна шаблонам афіцыёзу, але нават і ў такіх выпадках адчуваецца, што пісьменнік не лічыць за лякарства душэўнае ні калектывізацыю, ці цаліну. Намечаныя ў творах сітуацыі павінны былі весці да трагічнай развязкі. Разам з ёй прыходзіць прасвятленне, але — «па часе». Яно — «раптоўны нямоцны плач». Так — у апавяданнях, гэтак жа — і ў рамане: «Абагнаўшы Імполя, што дзьмухаючы сабе на твар, астуджаючы яго і збіваючы з кончыка носа едкія кроплі поту, упарта, з астатніх сіл цягнуў перадок з распластаным Міцем, Алеся здалёк распасцерла рукі і, дабегшы, абняла збялелую, ужо бязвольную Чэсю, і яны задрыжалі, закалаціліся ад цяжкага бязгучнага плачу».

Катарсіс — «міг бліскавіцы» — гэта толькі магчымасць яднання людзей, але гэта яшчэ не гарантыя абавязковага выйсця з тупіка.

Проза В. Адамчыка лішні раз пераконвае ў тым, што беларускую літаратуру можна мераць традыцыйнай меркай рэалізму «тыповых характараў у тыповых абставінах» пры адной абавязковай умове: калі пад «тыповымі абставінамі» разумеецца фантасмагорыя сучаснага быцця.

Тэтралогія «Чужая бацькаўшчына», «Год нулявы», «І скажа той, хто народзіцца», «Голас крыві брата твайго» нясе на сабе выразныя адбіткі стылю эпохі — стылю рэалізму «магічнага», «фантастычнага» з уласцівай яму беларускай рысай — захаванасцю прычынна-выніковых сувязяў. В. Адамчык, якога на пачатку творчага шляху лічылі за навеліста і нават не ўсе адразу прынялі яго раманную манеру, усё ж не мог абмежавацца малой формай. Як бы там сабе ні было, а сінтэз — гэта ўсё ж спецыфіка рамана.

І вось цяпер, калі тэтралогія закончана, мы можам гаварыць пра аўтарскую канцэпцыю ў цэлым. У святле раманнага дзеяння па-іншаму ўспрымаюцца і навелы. Маецца на ўвазе канцэпцыя гістарыясофская. Творы В. Быкава стварылі панараму вайны — як формы жыццядзейнасці ў XX стагоддзі. В. Адамчык паказаў, што грамадскі лад набух вайной яшчэ задоўга да пачатку вайны. Вайна толькі развязала рукі Сяргею Рэпку і Камашылу. Дарма што адзін з іх пайшоў у партызаны, а другі — у краёвую абарону. Прагнуць крыві і не могуць ёй здаволіцца казакі Паўлава і акаўцы.

Беларуская нацыя ў XX ст. разбэрсана, і ў гэтым — галоўная прычына трагічнага лёсу народа. Чытач Адамчыкавай тэтралогіі добра бачыць, як у сусветных катаклізмах варагуючыя стыхіі расцягваюць беларускую нацыю, і няма сілы — сваёй дзяржаўнасці, якая б ратавала народ ад самаедства.

Праблема «свайго» чалавека, мужна пастаўленая ў творах В. Быкава, арганічная і для В. Адамчыка. Актуальнасць яе відавочная і сёння, калі ў якасці выйсця з тупіка прапануюцца ваенна-палітычныя саюзы. У сваёй тэтралогіі В. Адамчык папярэджвае аб тым, што пазбаўлены ўласнай дзяржаўнасці народ спатрэбіцца сучасным рэжысёрам крывавых гульняў як пастаўшчык прафесійных забойцаў. Ва ўмовах бездзяржаўнага існавання ў крызісную эпоху індывідуальная інтэлігентнасць з'яўляецца вельмі кволай гарантыяй гуманістычных паводзін. Жывучы беларускай ідэяй, Міця Корсак, сам таго не хочучы, забіў партызанку, калі тая ўцякала з палону. Казакі, што перайшлі на службу да гітлераўцаў, забілі і спалілі яго бацьку. В. Адамчык як ніхто з яго равеснікаў умее падаць жыццё ва ўсёй яго складанасці, з усімі вузламі яго супярэчнасцяў. Сваімі творамі ён нібы запрашае крытыку спасцігнуць нейкія новыя этычныя глыбіні, без разумення якіх немагчыма ацаніць учынкі персанажаў — такіх, як стары Корсак, яго дачка і сын, Хрысця, Імполь.

Фантасмагарычная рэальнасць, адлюстраваная ў творах В. Адамчыка, пераконвае сучасніка ў тым, што лёс нашага народа быў бы іншы, калі б у народа была свая дзяржаўнасць. Да гэтага падводзіць сама логіка мастацкага адлюстравання жыцця. Падобная накіраванасць таленту сёння павінна быць ацэнена як адзін з найбольш каштоўных духоўных здабыткаў нацыі.

**Аляксей РАГУЛЯ**

# «Я — НЕ ПАЛІТЫК! Я — ПІСЬМЕННІК!»

*(Пачатак на стар. 5)*

тым, што сам тэрмін часам вымагае і дзеянняў адпаведных. А вось дзеянні, якія цяпер можна назіраць, прыспешваюць час. І ў агульным працэсе развіцця бачны «незакранутыя астравы». Яны некалі аб сабе нагадаюць людзям і давядзецца вяртацца туды нашым нашчадкам, але ўжо з пэўнымі выдаткамі.

Магчыма, не дакладна выказваю тое, што непакоіць, пра што думаю. Я цалкам за наша сённяшняе Аднаўленне. Я падтрымліваю людзей, якія ўдзельнічаюць у ім. Цяпер многа гавораць пра маскоўскія падзеі. Але я тым не менш перакананы, што ні адна ўлада нявартая чалавечай крыві. Страшна і тое, што гэтак, як зрабіў Ельцын, маглі б зрабіць Хасбулатаў і Руцкой — паставіць танкі і пачаць абстрэл Крамля. Чым больш даведваешся пра тыя дні, тым больш разважаеш пра іх, тым часцей прыходзіш да падобнай высновы. За кроў павінны адказаць усе, хто вінаваты ў тым, што яна пралілася. Але ў гэтым павінен разабрацца суд. І ніхто іншы.

**— Палітыка — палітыкай, але ж пісьменнік перш за ўсё — творца...**

— У Магілёўскім драматычным тэатры пачынаецца пастаноўка спектакля па маёй п'есе «Следчая справа Вашчылы». Разам з Міністэрствам культуры шукаем сцэну для новай п'есы, апублікаванай нядаўна ў часопісе «Тэатральная Беларусь». Выходзяць і дзве новыя кнігі. Кніга эсэістыкі, публіцыстыкі, дарожных нататкаў «Паміж сонцам і месяцам» і раман «Вяртанне да віны». На пачатку ж года ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет кніга п'ес «Звон — не малітва». І на рабочым стале сёе-тое ляжыць... Мне здавалася, што раманам «Вяртанне да віны» можна канчаць цыкл раманаў пра Вялікую Айчынную вайну. Так я, дарэчы, і сказаў пра гэта ў адным інтэрв'ю. Але пайшлі лісты, раздаваліся званкі. Маўляў, цыкл трэба працягваць. Таму і вырашыў расказаць пра далейшы лёс асобных герояў. Пра тых, хто апынуўся ў чужыне. Як жыў ён там, што рабіў. Тэма цяжкая для мяне, мала фактаў. Няма грунтоўных матэрыялаў, «героі» пакуль яшчэ не хочуць раскрывацца, але брацца за такі раман давядзецца. Тым больш, што да гэтага заклікаюць нават тыя крытыкі, якія яшчэ нядаўна гаварылі, што ў творах пра верамейкаўцаў Чыгрынаў павінен паставіць кропку. Цяпер жа некаторыя думаюць інакш. Значыць, нешта змянілася ў самім жыцці, што спатрэбіўся яшчэ адзін раман. Беларусам спатрэбіўся яшчэ адзін мой раман з ваеннага цыкла. Паранейшаму шмат турбот выклікае часопіс «Спадчына». Ён карыстаецца папулярнасцю ў чытача, а мы ў сваю чаргу робім усё магчымае, каб апраўдаць давер. Можа, нават, і немагчымае. Напрыклад, з наступнага года памер «Спадчыны» павялічваецца на два выдавецкія аркушы. Сёння ж дамагчыся гэтага было вельмі нялёгка. Але як жа інакш? Усе ж мы працуем у імя нашай будучыні, на карысць Адраджэння, суверэннай Рэспублікі Беларусь.

**Інтэрв'ю ўзяў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

ПРЭМ'ЕРЫ

## ГЭТА ЎЖО СУР'ЁЗНА...



**Балет на сцэне тэатра музкамедыі? Цяжка было даць веры, пакуль летась афішу папулярнага сталічнага тэатра не аздобілі «Іспанскі дывертысмент» ды «Штраусіяна». Днямі харэаграфічная трупа Дзяржаўнага тэатра музкамедыі Беларусі пацвердзіла сур'ёзнасць сваіх творчых намераў. У І аддзяленні новага прадстаўлення ажылі грацыёзныя паставы танцоўшчыц з класічнага «Па-дэ-катра» /музыка Ц. Пуні, перанос харэаграфіі — К. Тэр-Сцяпанавай/, а таксама шэраг эфектных нумароў у пастаноўцы галоўнага балетмайстра тэатра Н. Дзячэнкі. ІІ дзеяй стаўся маляўнічы спектакль «Шэхеразада» на музыку М. Рымскага-Корсакава, прымеркаваны да 150-годдзя кампазітара. Лібрэта і пастаноўка — знанага майстра Л. Трамбавельскай, дырыжор А. Лапуноў, мастакі Л. Саладоўнікаў ды Л. Дворкіна. Прыемнае ўражанне робяць маладыя салісты Т. Сяргейчык, К. Вераценнікава, Ю. Дзятко, К. Кузняцоў, Т. Ерахавец. Ёсць і свая сенсацыя: удзел у «Шэхеразадзе» саліста балета Маскоўскага Крамля з. а. Беларусі А. Карзянкова, які, у рэкордны тэрмін засвоіўшы партыю Сіндбада, будзе наведвацца на радзіму і радаваць мінчукоў сваім майстэрствам.**

**С. Б.**

*На здымку нашага фотакарэспандэнта В. СТРАЛКОЎСКАГА сцэна са спектакля «Шэхеразада».*

ВЫСТАВЫ

## ПРА «ЛІРНІКА ВЯСКОВАГА»...

**Па звычцы гаворым пра Уладзіслава Сыракомлю — «лірнік вясковы», забываючы пры гэтым, што так назваў яго ўпершыню не хто-небудзь, а Янка Купала: у аднайменным вершы, што ў свой час быў змешчаны ў спецыяльным выпуску часопіса «Літва і Русь», поўнасцю прысвечаным жыццю і творчасці аднаго з самых слынных майстроў, якія працавалі на сумежжы беларускай і польскай літаратур. На сённяшні дзень захаваліся лічаныя адпаведнікі гэтага унікальнага выдання, якое даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Адзін з іх некалі належаў выдатнаму беларускаму адраджэнцу, прафесару Б. Эпімах-Шыпілу. У 1929 годзе ён перадаў асабістую бібліятэку — пяць тысяч тамоў — Акадэміі навук Беларусі. Цяпер гэты экземпляр /на тытульным лісце экслібрыс Б. Эпімах-Шыпілы, аўтограф/ можна пабачыць на выстаўцы, прысвечанай 170-годдзю з дня нараджэння У. Сыракомлі, што працуе ў чытальнай зале аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі.**

**Экспазіцыя багатая на рэдкія выданні. У ёй прадстаўлены таксама першыя выданні У. Сыракомлі — як яго ўласных твораў, так і перакладаў, апрацовак народных песень. Тут жа пераклады спадчыны «лірніка вясковага» на беларускую мову.**

**Ёсць на выставе і раздзел літаратуры аб жыцці і творчасці паэта-дэмакрата. З беларускіх даследчыкаў, як вядома, іх аналізам займаліся С. Александровіч, А. Мальдзіс, У. Мархель, К. Цвірка і іншыя.**

**Н. К.**

КУЛЬТУРА

## ТЭАТРАЛЫ З БРАСЛАВА

**Нядаўна ў Браславе адбылася цікавая і, скажам адразу, неардынарная для горада падзея: тут нарадзіўся тэатральны калектыў. Нарадзіўся ён не ў Доме культуры, а... у мясцовым касцёле. Парафіяльная моладзь, натхнёная ўдзелам у фестывалі хрысціянскай песні, які праходзіў сёлета ў Магілёве, вырашыла таксама сродкамі мастацтва стукацца да сэрцаў людзей. Сабраліся, парадзіліся, дасталі з касцельнае шафы тэкст п'есы на рускай мове «Нечаканы госць» невядомага аўтара, пераклалі яго на беларускую мову і прыступілі да рэпетыцый. А ўжо недзе праз месяц у гарадскім Доме культуры землякі віталі працу моладзі бурнымі воплескамі.**

**Аб чым гэта п'еса? Аб спрадвечнай барацьбе дабра са злом, любові ды спагадзе да бліжняга, аб пошуках Бога ў людзях, якія жывуць побач — «што ім учынілі, тое і Мне ўчынілі...» Падобраму здзівіла шчырая, натуральная ігра акцёраў, цікавыя дэкарацыі і строі, гукавое афармленне. Кіруе новым творчым калектывам арганістка касцёла Іненса Сапун, а цяпер на дапамогу ёй прыйшла і дырэктар гарадскога Дома культуры Таццяна Міхайлава. «Нечаканы госць» пабываў ужо на гастролях у Полацку, Слабодцы, атрымаў ён запрашэнне і ў другія мясціны.**

**І. СТУДЗЕНЬСКАЯ**

ТЭАТР

## ЦЫЛІНДРЫ, СФЕРЫ ДЫ КАРОНЫ...

**«Мы атрымалі вялікае задавальненне ад гэтага тэатральнага марафона», — сказала ў заключным слове старшыня журы Першага міжнароднага фестывалю монаспектакляў «Я» /доўжыўся з 22 па 25 кастрычніка 1993 года/ Таццяна Арлова. Далей высветлілася, што абраць лепшых было цяжка, бо лепшых было шмат. Але пасля ўсіх спрэчак, якія яшчэ надараюцца паміж найкампетэнтнымі чальцамі журы, месцы /а яны на беларускім фестывалі ад пачатку вызначылі спаборніцкі дух/ размеркавалі наступным чынам: крышталёвы цыліндр і, адпаведна, трэцяя прэмія з'ехалі ў Летуву разам з выканаўцам спектакля «Спевы Лазара» Павеласам Будрысам; крышталёвая сфера і другая прэмія выпраўляюцца ў Расію ўслед за Ігарам Ларыным і ягонаю акцёрска-рэжысёрскаю работаю «Мой першы сябра»; першая прэмія і крышталёвая карона засталіся на радзіме фестывалю «Я» ў Валерыя Глазкова, лялечніка, сёлетняга выпускніка Акадэміі мастацтваў, які зорным бляскам адбіўся ў спектаклі «Запіскі вар'ята». Прыз «не першы, не другі, не трэці, затое самы вялікі» паводле Аляксея Дударава, іншымі словамі, прыз Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі прысуджаны Валерыю Шушкевічу за спектакль «Дабравесце ад Уладзіміра». Прадстаўнікі камітэта драматычных тэатраў краін ЮНЕСКА, атрымаўшы ганарары за ўдзел у журы, вырашылі скласці іх у невялічкі грашовы прыз самаму маладому ўдзельніку фестывалю — ім аказаўся Генадзь Пшэнік /Беларусь/: гэта дазволіць маладому акцёру перадусім не забыцца пра ўдзел у фестывалі і працягваць сваю творчую дзейнасць. Беларускі нацыянальны цэнтр міжнароднага інстытута тэатра прысудзіў свой прыз Джэфры Харысу /спектакль «Свячэнне Альбіёна»/ за высокую выканаўчую культуру.**

**Больш падрабязна пра фестываль — у бліжэйшых нумарах «ЛіМа».**

**Ж. Л.**

*На здымку: Ігар Ларын у спектаклі «Мой першы сябра».*
*Фота Ірыны ГУДЗІЕЎСКАЙ*

## ДА «ПРЫМАКОЎ» ПАЎЗ ОПЕРНУЮ ВУЛІЦУ



**Свой чацвёрты тэатральны сезон Слонімскі беларускі драматычны тэатр пачаў з прэм'еры новага спектакля па п'есе Янкі Купалы «Прымакі». Паставіў спектакль заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Варвашэвіч. Гэта яго трэці зварот да купалаўскай драматургіі. Яшчэ ў 1968 і 1981 гадах, калі Слонімскі тэатр быў народным, рэжысёр М. Варвашэвіч паставіў славутую «Паўлінку».**

**Купалаў сцэнічны жарт шырока вядомы сярод аматараў тэатральнага мастацтва. Пастаноўка слонімцаў дыхае сучаснасцю. Спектакль багаты на народныя песні і танцы. Добра адчуваюцца беражлівыя адносіны пастаноўшчыка да тэксту твора. У ролях заняты артысты В. Багушэвіч, С. Бачкоў, Т. Натарава, В. Сямёнава, І. Ерш, У. Навумік, В. Сявец, В. Бандарук.**

**Дарэчы. Перад самай прэм'ерай рашэннем сесіі Слонімскага гарсавета вернута гістарычная назва адной з вуліц горада, на якой у XVIII стагоддзі знаходзіўся славуты на ўсю Еўропу тэатр Агінскага. Цяпер вуліца Энгельса, як і дзвесце гадоў назад, стала зноў называцца Опернай вуліцай.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

*На здымку: сцэна са спектакля «Прымакі».*
*Фота В. ВАЛАДАШЧУКА*

ЛІТКУР'ЕР

## У ДАРУНАК ХАЛДАРУ ЛАКСНЭСУ

**Бадай, няма патрэбы нагадваць, хто такі Халдар Лакснэс. Гэта знакаміты ісландскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, аўтар сусветна вядомага рамана «Атамная база». На беларускую мову гэты твор у свой час пераклаў Іван Пташнікаў, а ілюстраваў Арлен Кашкурэвіч.**

**Нядаўна мастак наведаў Ісландыю. Не прамінуў ён выпадку сустрэцца і з 90-гадовым Х. Лакснэсам. А. Кашкурэвічу было прыемна пагутарыць з творцам, кнігамі якога зачытваецца ўвесь свет, а гаспадару дома не менш прыемна атрымаць у дарунак беларускамоўнае выданне «Атамнай базы» /А. Кашкурэвіч прывёз таксама і іншыя кнігі, што выйшлі ў Мінску/, і арыгіналы ілюстрацый, выкананых да гэтага рамана.**

**Н. К.**

ДРУК

## «МАСТАЦТВА», N 8

**Сшытак «Эстэтыка» аб'яднаў артыкулы А. Кіштымава «Беларусь у сістэме рынку» і Я. Шунейкі «Памяркоўнасць». Пад загалоўкам «... Чытаю ілюстрацыю, як літаратурны твор...» Г. Адамовіч разам з А. Кашкурэвічам разважаюць над мастацкім афармленнем «Фаўста» Гётэ.**

**«Адкрыццё майстра» А. Савіцкай — штрыхі да партрэта В. Мазынскага. Т. Мушынская гутарыць з швейцарскім балетмайстрам А. Бернардам /«Для мяне Інеса Душкевіч — другая Марго Фантэйн»/. Д. Падбярэзскі выступае з чарговымі раздзеламі з «нявыдадзенай кнігі па гісторыі музычнага шоу-бізнесу».**

НОВЫЯ ВЫДАННІ

## «НОВАЯ ЗЯМЛЯ»

**Менавіта такую назву мае першая на Беларусі незалежная вясковая газета дэмакратычнага кірунку, якую заснаваў і фінансуе Беларускі саюз фермераў. На гэтае штотыднёвае выданне ўжо можна падпісацца. У падпісным каталозе «НЗ» мае індэкс 63159, а кошт падпіскі на першы квартал 1994 года — 495 рублёў.**

**Узначаліў калектыў рэдакцыі вядомы беларускі пісьменнік-публіцыст Анатоль Казловіч. А днямі ў газетных кіёсках з'явіўся «нулявы» /пробны/ нумар газеты. І ён засведчыў, што новае выданне мае сур'ёзны намер гаварыць на сваіх старонках пра рэальнае жыццё сучаснай беларускай вёскі з усімі яе набыткамі, цяжкасцямі, праблемамі. А калі шырэй, дык і пра жыццё нашага грамадства ў цэлым, бо, як перакананы калектыў, «газета не можа ігнараваць палітыку, бо палітыка актыўна, бессаромна ўмешваецца ў жыццё вёскі і горада, нацкоўвае нас усіх адзін на другога».**

**А. Казловіч выступае з вострапраблемнымі развагамі «Трохгаловы беларус» скаціўся з горкі» — свайго роду мініхарактарыстыкай В. Кебіча, З. Пазняка і С. Шушкевіча. Апублікавана інтэрв'ю А. Басучка з В. Старавойтавым, кіраўніком знакамітага калгаса «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага, былога, праўда, калгаса — «Няма ў калгасе такой сілы, якая б прымусіла чалавека добра працаваць». Актуальныя развагі Г. Марчука — «На паўдарозе. Як лягчэй жыць: з Богам ці без Яго?».**

**Як бачна з рэдакцыйнага звароту, рэдакцыя мае намер зрабіць «НЗ» газетай, неабходнай кожнаму. Што ж, гэта застаецца толькі вітаць. Думаецца, што «Новая зямля» не абміне на сваіх старонках і пытанняў літаратуры, мастацтва, культуры.**

**Адно засмучае: «Новая зямля», як і іншыя новыя выданні, таксама культывуе, на жаль, толькі ў Беларусі, пэўна, знанае двухмоўе.**

**А. М.**

КОНКУРСЫ

## «НАДЗЕЯ-93»

**Конкурс юных кампазітараў пад такою назвай зноў пройдзе ў Гародні 9 снежня, у дзень нараджэння Максіма Багдановіча, і будзе, вядома, прысвечаны Паэту. Галоўная мэта конкурсу — садзейнічанне развіццю дзіцячай музычнай творчасці на Беларусі, выяўленне дзяцей, таленавітых у складанні музыкі, іх матэрыяльная ды маральная падтрымка.**

**Удзельнічаць у конкурсе могуць вучні ДМШ, школ мастацтваў, музычных ліцэяў і вучылішчаў. Конкурс адбудзецца па трох групах: вучні малодшых класаў — па 4 творы, вучні старэйшых класаў — па 3 творы, вучні МВ і старэйшых класаў ліцэя — па 3 творы.**

**Пажадана, каб разам з інструментальнымі былі вакальныя творы /песні, рамансы/. Адзін твор конкурснай праграмы павінен быць напісаны на вершы М. Багдановіча альбо прысвячацца яму.**

**Конкурсныя праграмы выконваюцца аўтарамі або канцэртмайстрамі і праслухоўваюцца асобна па трох узроставых групах. Пераможцы выступяць у заключным гала-канцэрце; вылучаныя на І, ІІ, ІІІ месцы атрымаюць грашовыя прэміі, а іхнія настаўнікі — каштоўныя падарункі. Удзельнікі конкурсу ўзнагароджваюцца падарункамі спонсараў, творчых саюзаў, вядомых беларускіх кампазітараў.**

**Кожны раён Гродзенскай вобласці можа прадстаўляць на конкурс трох удзельнікаў, кожная вобласць рэспублікі — 5 удзельнікаў.**

**Мы запрашаем да ўдзелу ў конкурсе прадстаўнікоў і тых мясцін замежжа, дзе жыў М. Багдановіч /Яраслаўль, Вільня, Н. Ноўгарад, Ялта/.**

**Выдаткі, звязаныя з удзелам у конкурсе, нясуць арганізацыі, якія накіроўваюць канкурсантаў, або яны самі.**

**Заяўкі з конкурснай праграмай дасылаюцца да 20 лістапада на адрас: 230023, г. Гродна, вул. Ажэшкі, 49. Фонд культуры. Ноты твораў трэба мець пры сабе. Даведкі па тэл.: 45-26-27.**

**АРГКАМІТЭТ**

ЦЫРК

## «ВЕСЯЛОЎКА ЗАПРАШАЕ»



**Халаднавата было ў мінскім шапіто, размешчаным, як расказваюць, на месцы колішняй вёсачкі Весялоўкі. Але ж артыстам, у адрозненне ад гледачоў, трэ было адбыць свой нумар да канца. Праўда, праграма «Весялоўка-93» здавалася бясконцай: у ёй былі абвешчаны, прынамсі, выступленні Жэні Белавусава, Альберта Скарахода, групы «Фрыстайл», баксёраў і, канечне, майстроў цырка. А пасля ўсяго ладзілася начная дыскатэка... Новая спартыўна-цыркавая музычная праграма пад купалам летняга цырка склалася намаганнямі Рэспубліканскай дырэкцыі эстрадна-цыркавога мастацтва, аб'яднання «Белэкаарт-цырк» ды Расійскага агенцтва па культуры «Піянер».**

*На здымку В. СТРАЛКОЎСКАГА — юныя служыцелькі мужнага і прыгожага мастацтва манежа.*

ЛіМ - часапіс

# КУДОЙ ДАРОГА?

## АГЛЯД НАШАНІЎСКАЙ ПУБЛІЦЫСТЫКІ В. ЛАСТОЎСКАГА

Драматычны, нават трагічны і ўсё ж... зайздросны лёс гэтага чалавека — аўтара першай працы па гісторыі Беларусі, супрацоўніка «Нашай Нівы» і актыўнага члена БСГ, пісьменніка, крытыка, публіцыста, выдаўца, вучонага і палітыка, старшыні Рады міністраў БНР, неадменнага сакратара АН БССР і, урэшце, «нацдэма», на доўгія гады выкрэсленага з айчыннай гісторыі за сваю любоў да Беларусі, за самаахвярную і самаадданую працу дзеля яе адраджэння і росквіту.

Сапраўды, шматграннасці таленту В. Ластоўскага можна толькі дзівіцца, і ўсё ж для многіх нашых сучаснікаў гэтае імя па-ранейшаму застаецца малавядомым, бо яшчэ чакаюць глыбокага даследавання і належнай ацэнкі жыццё і дзейнасць, творчая і навуковая спадчына гэтага выдатнага сына Беларусі.

Пра неардынарнасць яго мастацкіх твораў, якія з 1909 г. друкаваліся ў «Нашай Ніве», упершыню даволі лаканічна, але выразна ў аглядзе «За тры гады /1911—1913 гг./» сказаў М. Багдановіч: «Власт /псеўданім В. Ластоўскага. — **П. Н.**/ надрукаваў усяго 3—4 рэчы, але кожную можна ўзяць за прыклад, як трэба пісаць».

Не менш ярка засведчыў свае здольнасці В. Ластоўскі як даследчык беларускай міфалогіі і як аўтар надзённых публіцыстычных артыкулаў, ідэолаг нацыянальнага адраджэння. Усе гэтыя якасці шчодра праявіліся яшчэ ў нашаніўскі перыяд яго дзейнасці і, на жаль, многія выказаныя заўвагі да сённяшняга дня гучаць з неаслабнай вастрынёй і болем.

Адной з цэнтральных тэм у публіцыстычнай спадчыне В. Ластоўскага з'яўляецца нацыянальнае самавызначэнне. Пачатак XX ст. багаты на самыя разнастайныя праявы нацыяналізму, і Ластоўскі ўважліва аналізуе, ацэньвае іх, падзяляе па мэце і характары. «Ёсць два нацыяналізмы, нічым да сябе не падобныя, — пісаў ён у артыкуле «Голас Еўропы аб нацыянальных справах». — Адзін — гэта нацыяналізм паступовы, творчы, што ваюе за правы абяздоленых і пакрыўджаных і дабіваецца, каб на свеце была роўнасць і праўда; другі — гэта той, што стаіць за ўціск, за панаванне дужага над слабым. Першы — нацыяналізм нацый пад'ярэмных, другі — пануючых нацый».

Актыўны дзеяч беларускага руху, ён зусім не праціўнік інтэрнацыяналізму, дружбы народаў, аднак жа гэта не азначае, што ўсе народы павінны «зліцца ў адзін» /да чаго нас яшчэ зусім нядаўна «вялі» партыйныя правадыры/. Напрыклад, свае адносіны да Расіі, да рускага народа ён выказаў наступным чынам: «Расею мы, як і ўвесь свет, цэнім і паважаем не за курадымную мякіну, але за тое зярно, за тых лепшых людзей, якіх нямала было і ёсць» /«Дзе праўда?»/.

Сакрэт нацыянальнага росквіту Ластоўскі бачыць у аб'яднанні ўсіх сіл кожнага асобнага народа. Страта ж нацыянальнай адметнасці, на яго думку, прыводзіць да заняпаду культуры і эканомікі.

«...дэнацыяналізацыя, — тлумачыў ён чытачам «Нашай Нівы», — гэта значыць нішчанне ўсіх нацыянальных асобнасцей падбітага, пад'ярэмнага народа, усёй культурнай арыгінальнасці, яго стыльнасці... Некультурнасць, беднасць гэтых народаў, каторая папраўдзе пры гэтым скора прыходзіць, яны /шавіністы — **П. Н.**/ аб'ясняюць агульнай бяздарнасцю, культурным гультайствам зваяваных народаў, — значыць якраз тым, да чаго даводзіць дэнацыяналізацыя.

Найбольш адпорнай, лянівай думаць і найбольш шкоднай у нацыянальнай справе бывае заўсёды інтэлігенцыя пануючая і інтэлігенцыя здэнацыяналізаванай, асіленай нацыі...

Такая была калісь расейская інтэлігенцыя — арыстакратычная, узгадаваная на французскай мове, такая цяпер беларуская інтэлігенцыя і часцю нават украінская, каторая гаворыць паміж сабой збольшага па-расейску» /«Аб патрэбе стылю ў жыцці народу»/.

Абарона мовы для Ластоўскага не проста справа гонару, і значэнне яе не абмяжоўваецца перадачай інфармацыі: «...мова — гэта плод геаграфічных і гістарычных варункаў народа, яго звычаяў і абычаяў.

І болей: мова кожнага асобнага народа — гэта сума перажыванняў, сума душ яго жывых і даўно адышоўшых у вечнасць пакаленняў...» /«Родная мова»/.

Ад таго і склад душы, псіхалогіі таго ж С. Палуяна, што так рана развітаўся з жыццём, ён тлумачыць уплывам даўніх гістарычных падзей: «У яго жылах плыла кіпучая кроў слаўных Лясоўчыкаў Брагінскіх і Пінскіх казакоў, каторыя ў трудныя моманты шэрай гісторыі нашага краю браліся за аружжа і, пераможаныя сілай, не паддаваліся, але палілі сябе цвёрдай рукою ў кострышчах сваіх хат.

У душы яго гэтыя два пачаткі перамагаліся і кіпелі...» /«Памяці Сяргея Палуяна»/.

У тыя часы беларускі народ — гэта пераважна сяляне, часткай рабочыя і вельмі мала інтэлігенцыя, чыноўніцтва. Аднак жа такая акалічнасць не можа быць падставай да залічэння беларусаў у «невысакародныя» нацыі, нацыі бяспраўных рабоў, бо годнасць не можа прынізіцца ад таго, што чалавек заняты фізічнай працай. А вось «раб, нявольнік баіцца працы. Ён не верыць у сваю годнасць чалавечую і думае, што найбліжэй стане да свайго пана, калі будзе ўдаваць таго», сцвярджае Ластоўскі ў артыкуле «Праца» і звяртаецца з заклікам да суайчыннікаў:

«Браты-беларусы! Да каго з вас не прырасло яшчэ ярмо рабства, змагайцеся з гэтай страшэннай рабскай хваробай, боязню працы.

Шырце, дзе можаце, думку, што ніякая праца не ганьбіць чалавека, калі яна разумная і чэсная, а наадварот паднімае яго

# НЕАДМЕННЫ САКРАТАР АДРАДЖЭННЯ

*(Пачатак на стар. 3)*

канферэнцыі вёз у Коўна пісульку Цішкі Гартнага: **«Дзядзька Ластоўскі! Трэба ў Вашым выступленні падкрэсліць патрэбу рэформы правапісу, абвергнуўшы словы Некрашэвіча «ня варт разгляду з боку канферэнцыі».** Грэла сэрца пашанотнай увагаю і запіска ад дзядзькі Коласа: **«Ці чыталі «Сымона-Музыку»? Якая Ваша аб ім думка?»** Яшчэ ў сакавіку 1912 года паэт абяцаўся сакратару «Нашай Нівы» скончыць паэму «гэтым летам». Абяцанне доўжылася больш дзесяцігоддзя. Так што кароценькая запіска перадавалася невыпадкова /гэтаксама як і запрашальны білет з нагоды 20-гадовай літаратурнай дзейнасці Я. Коласа на «таварыскі банкет», зладжаны 26 лістапада 1926 года «ў памяшканні сталоўкі N 6 / Ленінская вул./ а 10 гадзіне ўвечары»/. Якуб Колас па-ранейшаму цаніў крытычны і мастацкі густ колішняга сакратара «Нашай Нівы», у тым сумненняў не застаецца.

Не засталося і ў Вацлава Ластоўскага сумненняў наконт будучага паспяховага развіцця беларускай культуры «пад саветамі».

Так канчаткова выспела рашэнне: «пераеду». Бо **тут** змагу зрабіць больш.

У 1924—1926 гады, як ні круці, параўнанне выходзіла на карысць Радавай Беларусі. Адкрыты першы універсітэт /яно нічога, калі ў ім прафесура ды большасць студэнцтва не беларускамоўнае/, дзяржаўныя тэатры /на адкрыццё драматычнага тэатра ў Віцебску запросяць удзельнікаў правапіснай канферэнцыі/, Інстытут Беларускай Культуры /вось-вось ператворыцца ў нацыянальную Акадэмію Навук/.

А што побач? У Латвіі тамтэйшая паліцыя выкрывае нібыта «беларускую манархічную арганізацыю», якая нават у снах трызніць, каб адарваць Латгалію ад Латвіі. Ад Пігулеўскага, Езавітава Ластоўскі даведваецца ўсё да драбніц: як хворага Краскоўскага, дырэктара Дзвінскай гімназіі, усю ноч пратрымалі пры вобыску гімназічных пакояў; як у падлеткаў дапытваліся: «Кто вам внушил, что вы белорусы?», «Вы себя считаете белорусом, или признаете белорусом», а з выпускнікоў здзекаваліся адкрыта: «Каким министром в Белоруссии Вам предложено быть?» Нават сівая латышка, настаўніца адной з беларускіх школак, пасля допыту, душачыся слязьмі, прызналася, што вымушана перавесціся ў іншае месца, інакш ёй пагражае турма.

У Літве ноччу з 16 на 17 снежня 1926 года адбыўся палітычны пераварот. Дзякуючы вайсковай уладзе ўсё прайшло «планава і вельмі хутка». З першых гадзін смятонаўскі ўрад распачаў паляванне на камуністаў. /У ліку турэмных вязняў пазней апынецца і зяць Ластоўскага/. Ужо 24 снежня вайсковы суд зрыхтаваў летувісам калядны падарунак: чатыры камуністы — Павел Пажэла, Рафал Чорны, Восіп Грэйфенбергерыс і Гедрыс прыгавораны да кары смерці. Пасля Калядаў, 27 снежня, загад прывялі ў выкананне. У інтэрв'ю, наладжаным для прадстаўнікоў прэсы, прэм'ер-міністр новага ўрада Вальдэмарас, ён жа па сумяшчальніцтве /пэўна, праз недахоп свядомых летувіскіх палітыкаў/ і міністр замежных спраў, заявіў, што замежная палітыка ўрада не змяняецца і што з Польшчай «немагчымы ніякія стасункі да таго часу, пакуль Вільня будзе заставацца ў руках Польшчы».

Так што «Крывіцкую Мекку» беларусы палітычна страцілі не ў снежні 1939-га. І не ў снежні 1926-га...

У гэтыя ж дні ў самой Беларусі сталася вялікае свята: чарговае ўзбуйненне БССР. Пачаўшы ў канцы 1920 года з 6 паветаў Менскай губерні, Савецкая Беларусь, узгадаваўшы на тым невялічкім абшары свой нацыянальны актыў, праз тры гады ўжо займала 22 паветы /з Віцебшчынай і Магілёўшчынай уключна/. І вось новае далучэнне — Гомельшчыны з 700.000 беларусаў. Такім чынам, Савецкая Беларусь налічвае 5 мільёнаў 200 тысяч жыхароў. «Факт далучэння Гомельшчыны вельмі радуе кожнага беларуса, — пісаў ковенскі часопіс «Покліч», — радуе не толькі таму, што да Менска далучан вельмі важны гаспадарча-эканамічны цэнтр, радуе і таму, што сам факт далучэння сведчыць аб узмацненні беларускай справы». На чарзе паўставала далучэнне Смаленшчыны.

Мара беларусаў пра волю і роўнасць між народамі, не забітая вякамі забораў, на вачах здзяйснялася. «Дзякуючы аб'ектыўным знешнім палітычным чыннікам і мудрай палітыцы ўрада Радзянскай Беларусі, каля Менска сабрана ўжо ад Усходу тры чацвёртых этнаграфічна-беларускіх зямель, — падлічваў ва «Уражаннях ад паездкі...» Ластоўскі. — Астаюцца яшчэ ў складзе Масковіі этнаграфічна-беларускія часці Смаленшчыны, паўночныя часці б. Віцебшчыны і Чарнігаўшчыны, але маецца надзея, хоць не без апору маскоўскіх «патрыятычных» чыннікаў, з часам можна будзе дабіцца далучэння і гэтых, пітома беларускіх частак да Беларусі». Дзеля гэтага, маўляў, варта і трэба шмат прыкладаць цярплівасці і далікацтва. Мы чужога не просім.

А калі зірнуць на Захад Беларусі?

Польшча працягвала санацыйную палітыку, падпарадкаваную задушэнню ўсяго беларускага на так званых «крэсах». Ластоўскі нават вымушаны звярнуцца ў Лігу Абароны правоў, каб чарговай заявай прыцягнуць увагу еўрапейскіх краін да беларускага пытання: «На Заходне-Беларускіх /крывічанскіх/ землях, заваяваных Польшчай у 1917—1921 гг., адбываецца цяпер жорсткая расправа польскіх заваёўнікаў над паняволенай беларускай народнасцю. Арыштаваны беларускія паслы ў польскі сойм: Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла і др., нават бяз згоды Сойму; арыштаваны дырэктары беларускага банка і яго аддзелаў, пісьменнікі, вучыцялі, грамадскія і культурныя дзеячы, члены сацыялістычнай арганізацыі — Грамады, усяго больш 1500 чалавек /.../ Польшча сваімі гвалтамі на беларускіх землях папіхае беларусаў да новых метадаў ў справе абароны сваіх правоў...»

Падпісваючы 25 студзеня 1927 года гэты выкрывальніцкі «Ліст да Старшыні французскай Лігі Абароны правоў Чалавека і Грамадзяніна», Вацлаў Ластоўскі не ўчуў першага званка, што адазваўся ў савецкім Менску ў святочны навагодні дзень 1927 года: тамтэйшае аддзяленне ГПУ арыштавала ягонага малодшага сябра, знаёмага яшчэ з дарэвалюцыйных часоў, калі працаваў карэктарам віленскага «Гомана» — Францішка Аляхновіча. Пасля правапіснай канферэнцыі Францішак неабачліва прызастаўся на радзіме. І яшчэ больш неабачліва — папрасіў савецкага грамадзянства. Улады дазволілі яму пабыць савецкім падданым «па пашпарце» усяго 4 дні.

Ластоўскі пажыве на волі пад Саветамі куды больш. Аднак, выязджаючы з Коўна 22 сакавіка 1927 года, ён яшчэ не ведаў, што пакідае сваю «друкарскую Прагу» назаўсёды. Спыніў жа ён выданне «Крывіча» прымусова, бо летувісы «перасталі лічыць уздым беларускай справы як спрыяючы Літве палітычны фактар».

Яшчэ ў студзені 1925 года рэдактар беларускага ковенскага часопіса турбаваўся, ці можа «разлічваць на субсідыю для далейшага выдання «Крывіча». У адказ літоўскі ўрад, падвышаючы фінансаванне «да 5000 літаў на нумар у 120 балонак», усё часцей даваў зразумець «неактуальнасць беларускай справы». У хвіліну разгубленасці і адчаю Ластоўскі адкрыта выкажа набалелае куратару беларускасці ад урада спадару Іонінасу: **«Два гады таму я ўзяў цяжкое заданне з верай, што чым далей тым к лепшаму пойдзе ў Літве беларуская справа, на жаль сталася наадварот, сталася не па прычыне беларускай».**

І, як звычайна, бяда не ходзіць адна. Ластоўскага-сем'яніна напаткаў страшэнны ўдар. Той часінаю памёр дзевяцігадовы Юрась Ластоўскі, сын Станіславы-Стахі, з якой Вацлаў аформіць законны шлюб ужо ў Менску, дзе, думалася, загаіўшы раны, можна пачаць жыццё наноў. Бо ў родным краю як у раю, жыць — не тужыць.

У Менску Ластоўскаму прапанавалі пасаду дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея і загадчыка кафедры этнаграфіі пры Інбелкульце /апошняе — на паўштатнай адзінкі, па сумяшчальніцтве з правадзейным сяброўствам у ІБК/. Ён працуе і ў «Камісіі жывое беларускае мовы» побач з Язэпам Лёсікам, Купалам, Бялькевічам, Бузуком, Чаржынскім /старшыня камісіі — Сцяпан Некрашэвіч, сакратар — Адам Багдановіч/, плануе падрыхтаваць у друк альбом беларускага народнага арнамента. Пад ягонай рэдакцыяй пачынаюць выходзіць этнаграфічныя зборнікі /у першым жа выпуску сам рэдактар надрукуе дужа цікавае даследаванне «Прочкі і разлучыны»/. А яшчэ — ладзіць экспедыцыі.

«Гэтымі днямі вярнулася ў Менск этнаграфічная экспедыцыя Інбелкульта і Беларускага Дзяржаўнага Музея на чале з неадменным сакратаром ІБК т. Ластоўскім, — паведамляў у рэдакцыйнай «хроніцы культуры» часопіс «Полымя». — Экспедыцыя наведала шмат паселішчаў Случчыны і Мазыршчыны і сабрала шмат рэчаў матэрыяльнай і духоўнай культуры і народнага мастацтва. БДМ закупіў да 1000 розных мастацкіх тканін, рознай вопраткі, разьбы па дрэве і шмат інш. Апроч гэтага, экспедыцыя знаёмілася на месцы з рознымі прадметамі, якія маюць археалагічнае і гістарычнае значэнне.

Мастак-фатограф т. Гальмачан зрабіў да 300 фатаграфічных здымкаў тыпаў, арнаментаў і інш.

Паміж рэчамі вопраткі экспедыцыя здабыла вельмі цікавую мужчынскую кашулю асобага крою, накшталт грэцкага «Сакоса», праславянскага тыпу, якую даўней апраналі мужчыны ў вялікія ўрачыстасці або захоўвалі на смерць».

Няхай апошняе сцвярджэнне выглядае легендарна-містыфікацыйным /у духу «гістарычных» песень пра Вітаўта і інш. падобнага жанру, упершыню друкаваных у

матэрыяльнае і маральнае палажэнне».

Паляпшэнне жыцця людзей ён бачыць не ў матэрыяльнай, эканамічнай развітасці, а ў духоўнай дасканаласці. Навукова-тэхнічны прагрэс не прывёў і не прывядзе чалавецтва да сацыяльнага міру і справядлівасці: «Чалавецтва зрабіла вялікі поступ у тэхніцы, бо чаго не навыдумлялі людзі: і лятучыя машыны, і тэлеграфы, і тэлефоны, і кінематографы, і ўсякую ўсячыну, але пры ўсім гэтым маральная старана ў людзей не паступіла ўперад ні на адзін крок. Як тысячу гадоў таму назад сільны здзекаваўся над слабым, так і па сягонняшні дзень тое асталося, і не відаць гэтаму канца краю.

І вось, пры ўсіх гэтых сумных варунках, душу ажыўляе адна толькі надзея, што здаровае, светлае выйдзе з народу, скажа свету калісь сваё слова...» /«Горай не будзе»/.

Спадзяванне на выхад «светлага», «здаровага» з народа невыпадкова. Як ужо адзначалася, беларусы — у масе сваёй — яшчэ не падзеленыя на вышэйшых і ніжэйшых, на багатых і бедных, і можна чакаць, што беларускі народ здолее паказаць свету шлях да справядлівага грамадства. Здзіўляючае пачуццё адказнасці за ўвесь народ!

Вартасць кожнай нацыянальнай культуры вызначаецца ўнёскам у вырашэнне праблем агульначалавечай значнасці: «Няхай хто-небудзь з нашых пісьменнікаў напіша хоць адну рэч, каторая бы паказвала новыя дарогі чалавечаству, і не будзе на свеце знаючага літару народа, каторы бы пасля гэтага, хто і што беларускі народ, не ведаў» /»Па сваім шляху»/.

Аднак разважанні на адцягненыя, абстрактныя тэмы не закінаюць ад Ластоўскага вастрыні надзённых сацыяльных і нацыянальных праблем. Ён заклікае патрабаваць увядзення беларускай мовы ў праваслаўнае і каталіцкае набажэнствы і не дапускаць сварак на гэтай глебе; заахвочвае ўсіх свядомых беларусаў пашыраць сферы выкарыстання мовы, і не толькі яе вуснай формы, але і рознага роду пісьмовай, каб на ёй загаварылі ўсе, хто жыве на грошы народа: камерсанты, адвакаты, урачы. «Мы, беларусы, як сіла народная, можам і павінны вымагаць, каб інтэлігенцыя, якой бы нацыі яна сама ні была, шанавала бы нас як людзей і пашану гэту выказвала, шануючы мову», — пісаў Ластоўскі ў натацы «З нашага жыцця».

Часам яго парады, хаця і слушныя, падаюцца наіўнымі, залішне дробязнымі, але ці не з такіх дробязей творыцца вялікае? «Няхай з кожнай ваколіцы, дзе ёсць два-тры чытачы «Нашай Нівы», яны разам памагаюць адзін аднаму, працуюць над тым, каб узраслі ў кожным куточку светлыя, шчырыя, справядлівыя людзі, каб зарадзілася крэпкая мужыцкая інтэлігенцыя, каторая павінна быць суцэльнай, нягледзячы на тое, ці іншыя з іх будуць мужыкамі-хлебаробамі, ці адвакатамі, ці вучыцелямі... — бо ўсе мы браты, дзеці адной зямлі» /«Кудой дарога»/.

Альбо ў іншым месцы: «Зямельныя абшары і лясныя багацці ў Беларусі належаць не беларусам: мы не гаспадары старонкі, а парабкі, батракі і найміты.

І не будзе пан паважаць раба свайго датуль, пакуль пан будзе панам, а раб рабом... А каб стацца гаспадарамі, мы павінны рабіць так, як рабілі чэхі і палякі, і як робіць кожны свядомы народ: мы павінны кінуць кліч па ўсёй старонцы: «Выкупляйце, Беларусы, Зямлю сваю!» /«Выкупляймося»/.

На думку Ластоўскага, прычыны нашага бяспраўя тояцца ў тым, што, па-першае, беларускі народ — гэта сяляне, каторыя «не акрэплі ў сваім чалавечым гонары і гонары грамадзяніна. Сярод нашых беларусаў яшчэ многа нявольніцка-рабскага». А па-другое, «беларускі рух — гэта не толькі рух нацыянальны, але гэта рух за лепшую долю нашага сялянскага народа» /«Шляхам праўды»/.

Прычыны пасягненняў рускіх і польскіх шавіністаў на беларускую самабытнасць Ластоўскі тлумачыць тым, што «ў народнай масе зазвычай нацыянальнай свядомасці не бывае і народ прадстаўляе сабой сыры матэрыял, каторы, наслаіўшыся за доўгі час, інтэлігенцыя, дзяржаўная і недзяржаўная, кожная стараецца перацягнуць на свой бок і ўпадобіць сабе яго. Дзеецца гэта з той прычыны, што, як даўней вышэйшыя станы, так цяпер народ — сіла ...Падзе гэта з'яданне адны адных толькі тады, калі народная маса ўсвядоміцца нацыянальна» /«Чаму нам жыць не даюць»/.

І з надзвычайнай надзённасцю, зусім не патрабуючы каментарыяў, гучыць водпаведзь тым, хто жадае смерці роднай мове беларусаў, водпаведзь тым, хто здрадзіў матчынай мове. Ластоўскі называе іх Юдамі: «І спраўляюць дзікія банкеты над магілай маці, што не малаком, а кроўю выкарміла іх з сухіх, худых грудзей сваіх.

І хоць яна яшчэ жыве, капаюць магілу ёй пад гук непрыстойных песень і брудную лаянку...»

І далей: «У імя культуры, у імя еднасці брацкай, у імя згоды, а нават у імя Хрыста прапаведуюць яны здрадніцтва народу.

Запраўду кажу вам: яны — прадвешчаныя Хрыстом, фальшывыя пракокі» /«Як вораг у няволі»/.

А вось яшчэ ўрывак, прамоўлены нібы наўмысна да вядомай часткі нашых дэпутатаў, міністраў: «...толькі сыны цемры і крыўды могуць выступаць проці нашага права будаваць сабе лепшае жыццё, яснейшую будучыню.

І выступаюць, і завальваюць каменнем і ломам нам дарогу да лепшага жыцця, і ў імя роўнасці і братэрства ўсіх народаў куюць нам ланцугі на цела і душу.

Фальш і няпраўда гучаць у іхніх словах аб роўнасці і брацтве, бо не можа быць роўнасці там, дзе няма роўных... І не будзе датуль, пакуль адвечны гаспадар зямлі гэтай будзе парабкам, батраком і наймітам, а тыя, што гавораць да нас чужой мовай, уласнікамі багацтваў, прасветы і навукі.

Дарога да роўнасці і... брацтва ляжыць праз роўнасць культурную і эканамічную» /«Наша праўда»/.

«Кудой дарога» — так назваў свой артыкул, надрукаваны 80 гадоў таму ў N 1 «Нашай Нівы» за 1913 г., В. Ластоўскі. «Кудой дарога» — разважаў сам і звяртаўся да суайчыннікаў, да найбольш свядомых сярод іх — да інтэлігенцыі: «Прычына ўпадку нашага ў тым, што калісь нашы краскі, нашу інтэлігенцыю замарозілі маразы і змялі віхры. І цяпер прыйшоў час ізноў выдаць нам свае краскі». І мы, успомніўшы маразы і віхуры 30—70-х, зірнуўшы навокал, ці не скажам услед: «прыйшоў час ізноў выдаць нам свае краскі»?

І бярэ одум: што чакае на новым вітку гісторыі родную Беларусь, кудой яе дарога?

**Павел НАВОЙЧЫК**

«Крывічы» і ці не змайстраваных самім рэдактарам-гісторыкам/, аднак крыж Лазара Богшы 1161 года, больш вядомы пад назвай крыжа Ефрасінні Полацкай — гэта ж не міф! Знакаміты твор выплыў з нябыту падчас адной з такіх экспедыцый, наладжанай Ластоўскім.

І ў Савецкай Беларусі Ластоўскі не думаў спаць у шапку. «У наступную восень у памяшканні БДМ будзе наладжана выстаўка ўсіх гэтых рэчаў», — такім абяцаннем, яўна з падачы дырэктара БДМ, закончыла «Полымя» сваё паведамленне. Ці хто тады ведаў, што «ў наступную восень» Ластоўскага чакае звальненне з дырэктарскай пасады. І не толькі з дырэктарскай...

А пакуль, увосень 1928 года, адбылося «Свята ўсіх беларусаў». Так назаве Ластоўскі ў адным з інтэрв'ю доўгачаканы акт утварэння Беларускай акадэміі навук. «... і ў вянку культурных здабыч, дасягнутых у апошнія гады народамі СССР пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, прыбудзе яшчэ адна яркая зорка. Яна будзе сведчыць усім і назаўсёды, што ў саюзе працоўных усяго свету — найлепшая запарука свабод і правоў усіх народаў. Працоўныя ж масы Заходняе Беларусі, беларусы Латвіі, Літвы, рассыпаныя па Еўропе і Амерыцы, годна прымуць гэты гістарычны акт урада БССР, маючы яшчэ адзін цвёрды доказ, што духоўны цэнтр усіх працоўных беларусаў — Менск». У імя Беларусі і дзеля будучыні айчыны Вацлаў Ластоўскі ішоў на супрацоўніцтва з усімі партыямі, рухамі, урадамі. У эйфарыі беларусізацыі забылася мудрае народнае выслоўе «не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы».

Як калісь у часы прэм'ерства і плённай працы ў Коўне, калі атрыманыя за «Падручны расійска-крыўскі /беларускі/ слоўнік» /10000 літаў/ і за «Гісторыю Беларускай /Крыўскай/ кнігі» /5000/ літаў ганарары дазвалялі яму падтрымліваць беларускае студэнцтва ў Празе /ды і не толькі ў Празе/, так цяпер на пасадзе Неадменнага сакратара БАН акадэмік Вацлаў Юстынавіч Ластоўскі імкнецца матэрыяльна дапамагаць заходнебеларускай інтэлігенцыі. Калі ў пратаколах Прэзідыума БАН сустракаюцца пастановы адлічыць 50 долараў Язэпу Драздовічу за надасланы матэрыял або заплаціць Рыгору Шырме 200 рублёў з разліку па 2 рублі за кожную запісаную фалькларыстам песню, мне бачыцца ў тым клопат і Неадменнага сакратара Беларускай акадэміі навук.

Ластоўскі заставаўся дзейным не толькі ў акадэмічных сценах. У 1930 годзе ў надзённай серыі «Да Усебеларускага камсамольскага політбою» выйдзе кніжачка нейкага А. Платуна «Нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў БССР». У раздзельчыку «Цяжкасці ў культурным будаўніцтве» аўтар паскардзіцца на актыўныя «вылазкі беларускага нацыянал-дэмакратызму», скіраваныя «супроць лініі савецкае ўлады на правядзенне нац. палітыкі»: «... у 1928 годзе была ўзнята дыскусія, вельмі, праўда, кароткая, аб Другім беларускім дзяржаўным тэатры. Рэцэнзія была змешчана ў газеце «Звязда». Рэцэнзія была напісана аб адной з пастановак Другога бел. дзярж. тэатра. І вось на другі ці на трэці дзень у газ. «Савецкая Беларусь» з'яўляецца адкрыты ліст пяці чалавек: з іх 2 камуністы, адзін кандыдат у камсамол і два такія чалавекі, як В. Ластоўскі і А. Цвікевіч — былыя прэм'еры адных з шматлікіх «народных» урадаў.

І вось, у купэ гэтыя пяць чалавек, разам з былымі людзьмі, падпісваюць надзвычайна рэзкі ліст, накіраваны супроць органа Цэнтральнага Камітэта партыі газ. «Звязда». У гэтым лісце гаварылася прыблізна так, што газета «Звязда» выступае супроць беларускае нацыянальнае культуры. Гэты ліст характэрны не толькі тым, што ўзводзіў паклёп супроць цэнтральнага органа партыі, але і тым, што, яшчэ раз паўтару, ён з'явіўся за подпісам двух камуністаў, камсамольца і двух такіх людзей, пра якіх я толькі што казаў, — поўнае аб'яднанне па нацыянальнай прыкмеце».

Паклаўшы намарна намаганні адшукаць патрэбны нумар «Савецкай Беларусі», тагачаснай «трыбуны нацыянал-дэмакратызму» /нейкі час яе рэдагаваў, пераехаўшы з Прагі, Уладзімер Жылка / з артыкулам за 5 подпісамі культурных дзеячаў «аб'яднаных па нацыянальнай прыкмеце», я зразумеў адно: Вацлаў Ластоўскі вярнуўся на радзіму будаваць вольную Бацькаўшчыну, і яму нат думка не прыходзіла хавацца ад ідэйных апанентаў. Чаму б не падтрымаць Тодара Глыбоцкага, які лічыць, што калі ў нас не хапае арыгінальнага рэпертуару, дык лепш будзем перакладаць «заходне-еўрапейскія класічныя п'есы», чым «карыстацца ахвосцямі Масквы» /накшталт «Бронецягнік 1469»/... За сваю не такую ўжо і кароткую палітычную кар'еру Ластоўскі ўсвядоміў: разумную галаваньку ніякі меч не бярэ — ні польскі, ні германскі, ні латвійскі ці расейскі.

Ды ў іншым агні гартаваўся ў руках бальшавікоў «карающий меч революции».

У навуку прыходзілі іншыя новыя кадры.

«Тав. Бэндэ прызначыць на пасаду аспіранта па кафедры беларускай літаратуры і пасунуць справу аб хутчэйшай дэмабілізацыі яго з Чырвонай Арміі».

У краіне, у тым ліку і ў храме навукі, заводзіліся новыя парадкі. «**Слухалі**: Аб арганізацыйных зменах Беларускай Акадэміі навук па прынцыпе адзінаначальнасці. **Пастанавілі**: Прымаючы пад увагу, што развіццё навукова-даследчай працы вымагае прадстаўлення большых правоў, а ў сувязі з гэтым і персанальнай адказнасці кіраўнікоў, як цэлых аб'яднанняў, устаноў /аддзелы, нацсектары/, гэтак і паасобных устаноў і членаў прэзідыума, перагледзець статут Акадэміі ў напрамку зліквідавання паасобных калегіяльных устаноў /рады аддзелаў, рады сектараў, сакратарыят БАН, выдавецкага бюро і бібліятэчнай рады/ і пераводу ўстаноў на адзінаначальнасць».

З першага жніўня да першага верасня 1929 года Ластоўскаму выпаў апошні, праведзены ім на волі, казённы адпачынак. З 18 па 26 верасня выбіраецца разам са Сцяпанам Некрашэвічам у ваколіцы Слуцка, Семежава, Краснай Слабады і Старобіна «для вывучэння гэтых раёнаў з боку этнаграфіі і мовы». Фактычна яны праходзяць гераічнымі сцежкамі слуцкага паўстання, узнятага іхнімі паплечнікамі-эсэрамі 27 лістапада 1920 года. Жалоба ляжала на сэрцы і ў тых, хто часова наведаўся ў Семежава, і ў тых, хто заставаўся жыць ля жвіровых магіл бацькоў і братоў.

Невясёлая вандроўка для навукоўцаў мо выдалася і таму, што перад атрыманнем камандзіроўкі абодва акадэмікі на пасяджэнні Прэзідыума БАН праслухалі і мусілі выносіць рашэнне «аб звальненні аспіранта Юрашкевіча» з прычыны таго, што «аспірант кафедры беларускае літаратуры т. Юрашкевіч не адпавядае запатрабаванням Акадэміі, якія прад'яўляюцца да аспірантаў з боку сацыяльнага паходжання і што ў час знаходжання яго на працы ў Акадэміі т. Юрашкевіч не выявіў свайго грамадска-палітычнага твару».

Камуністычны спрут вастрыў клешні-шчупальцы.

Па трагікамічнай іроніі лёсу, вярнуўшыся з Слуцкай вандроўкі, акадэмік Ластоўскі бярэцца за неардынарнае даручэнне: разам з геолагам Міхайлам Грамыкам /«прыцягнуўшы прадстаўніка ад Белдзяржбуда»/ мусяць «знайсці 4—6 камянёў для Маўзалея Леніну». І не абы сабе так, а памерам і якасцю «як меншы са знойдзеных раней камянёў». Тэрмін — казачны: не доўгі, але і не кароткі — да снежня месяца. О, што месяцы?! Тут невядома, як дзень да вечара ператрываць у пачынаючай дранцвець ад жаху сталінскай імперыі, а потым з вечара да раніцы затуліцца ў хаце...

**«Вельмipаважаны пане Вацлаве!**

**Пасылаю на другім баку пробку з мовы «Ай-кітабу». Пробкі гэтае, калі ласка, не друкуйце нідзе і наогул аб «Ай-Кітабу» нідзе не пішыце, каб без пары не рабіць шуму, бо гэта толькі прычынілася б да некаторага непарадку...»**

Ведаць бы Янку Станкевічу, што папярэджанне ягонае, пасланае 11 чэрвеня 1924 года з Прагі ў рэдакцыю «Крывіча», прыпозніцца на гадкоў пяць. Да вялікага «непарадку» і «шуму» прычыніцца іншы ягоны артыкул «Дыспалаталізацыя ў беларускай мове», апублікаваны ў выдадзенай ў 1928 годзе Інстытутам Беларускай Культуры кнізе «Запіскі аддзела Гуманітарных Навук». Публікацыя, адрэдагаваная Некрашэвічам і бласлаўлёная дазволам Неадменнага сакратара, будзе каштаваць абодвум высокіх пасад.

Бо «хто такі аўтар артыкула Я. Станкевіч — працоўныя масы Беларусі добра ведаюць», — запішуць 11 кастрычніка 1929 года ў пратаколе N 33 пасяджэння Прэзідыума Беларускае акадэміі навук прысутныя « т.т. Бялуга, Некрашэвіч, Смоліч, Ластоўскі, Замоцін, Піятуховіч, Барычэўскі, Шчакаціхін, Анцаў, Шкільтар, Парэчын і Матулайціс». Ведаюць яго як «патэнтаванага рэакцыянера і клерыкала, які ў апошнія гады цалкам запрадаўся польскаму фашызму, ведаюць яго зараз як чарнасоценца і заўзятага ворага Савецкай Беларусі і ўсяго Савецкага Саюза». За спрыянне ворагам краіны саветаў па галоўцы, ясна, не пагладзяць.

Недарэчна? Так, але хоць не смешна. А як быць з фармулёўкай звальнення навуковых супрацоўнікаў БАН Шлюбскага, Байкова і Цвяткова? «Заслухаўшы заявы б. навуковага супрацоўніка Шлюбскага, Цвяткова і Байкова аб невыразнасці фармуляванай Прэзідыумам прычыны звальнення іх з пасад навуковых супрацоўнікаў, прызнаць патрэбным змяніць фармулёўкі ў наступным сэнсе:

Прымаючы пад увагу, што навуковы супрацоўнік II катэгорыі кафедры этнаграфіі Шлюбскі напісаў і распаўсюдзіў рэакцыйныя па зместу анкеты аб збіранні звестак аб вялікодных яйках, што ён быў грамадска скампраметаваны ў друку і не рэабілітаваў сябе, імкнуўся падарваць значэнне самакрытыкі, што выражалася ў пагрозе пабіць таго, хто напісаў заметку ў насценгазеце аб ім і ўрэшце тое, што ён быў скампраметаваны па суду, звольніць яго ад працы ў БАН /.../».

Без усмешкі не прачытаеш. А тады кроў стыла ад падобных камедый лёсу.

Ці не падладжанай энкавэдысцкай трагікамедыяй з элементамі дэтэктыву быў разыграны сам арышт Вацлава Ластоўскага і Сцяпана Некрашэвіча на параходзе «Тобольск» на Обі, 21 ліпеня 1930 года, куды накіроўваліся вучоныя даследаваць побыт землякоў у далёкай Сібіры? Хіба не ведаў пра месцазнаходжанне ахвяры старшы ўпаўнаважаны сакрэтна-аператыўнага аддзела АДПУ Беларусі т. Сікорскі, даючы 18 ліпеня пастанову: «Гр-на Ластоўскага Вацлава Юстынавіча, які жыве ў г. Мінску па пл. Свабоды ў д. N 15, кв. 8а ці які знаходзіцца ў навуковай камандзіроўцы ў Сібіры, неадкладна арыштаваць...»?

Праз доўгія і пакутныя 10 месяцаў зняволення, допытаў, голаду, бяссоння, маральных здзекаў у турмах Масквы і Менска іх адправяць зноўку, ужо этапам, на той «пугающий простор», што ляжыць за Масквой і які ў нашым народзе адвеку атаясамліваецца з адным дранцвеючым на языку словам-кленічам — Сібір.

Гэтаксама, як на захад ад нас жыхары Еўропы атаясамлівалі 1/6 частку планеты адным ёмкім, «кандовым», бо не імі прыдуманым, словам — ГУЛАГ.

# Сёньня й заўсёды

На парозе радавое сьвята беларусаў – Дзяды!

"Ёсьць чары ў забытым, старадаўным;
прыемна нам сталецьцяў пыл страхнуць,
пажыць мінулым – гэткім мудрым, слаўным,
быцьцё дзядоў у смутку ўспамянуць".

Дзяды! Нашы дзяды...
Яны прыходзілі ў гэты сьвет,
каб упрыгожыць яго,
напоўніць глыбокім зьместам.

Шануйма іх памяць сёньня й заўсёды!





ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:
Х.ДУНЕЦ (1932-35)
І.ГУРСКІ (1935-41)
А.КУЛЯШОЎ (1945-46)
М.ГОРЦАЎ (1947-49)
П.КАВАЛЁЎ (1949-50)
В.ВІТКА (1951-57)
М.ТКАЧОЎ (1957-59)
Я.ШАРАХОЎСКІ (1959-61)
Н.ПАШКЕВІЧ (1961-69)
Л.ПРОКША (1969-72)
Х.ЖЫЧКА (1972-76)
А.АСІПЕНКА (1976-80)
А.ЖУК (1980-86)
А.ВЯРЦІНСКІ (1986-90)

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара — 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі — 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-85, літаратурнага жыцця — 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, паэзіі і прозы — 33-22-04, музыкі — 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, навін — 33-24-62, мастацкага афармлення — 33-22-04; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000.
Нумар падпісаны 28.10.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12